19 лютага 2016 | № 7 (472)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Дзіўныя рэвалюцыі
стар. 4

**5 НЕ КРЫЗІС, АЛЕ НОВЫ СТАТУС-КВО**

Цяперашняя сітуацыя ў эканоміцы – гэта не крызіс. Крызісы прыходзяць і сыходзяць, а гэтым разам нішто само па сабе не сыдзе



**6 ГЭТА Я – БЕЛАРУСКАМОЎНЫ...**

Перапіс беларускамоўных людзей, арганізаваны папулярнымі курсамі беларускай мовы «Мова нанова», засведчыў, што сярод аматараў беларушчыны багата людзей самых розных прафесій і нацыянальнасцяў. Знаёмцеся!

**9 ДЫПЛАМАТЫЯ БЕРНІ САНДЭРСА**

Добрыя вынікі на старце праймерыз яшчэ не гарантуюць Берні Сандэрсу перамогі ў дуэлі з Хілары Клінтан

**10 АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. ЗАПАВЕДЗЬ**



З сотняў беларускіх літаратараў бадай толькі два падвяргаліся ў другой палове XX стагоддзя найбольш мэтанакіраваным і лютым нападкам: Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч

# Еўропа заплаціла за бяспеку

## ЕС зняў санкцыі ў дачыненні да афіцыйнага Мінска. А што далей?



Сяргей ПУЛЬША

Ужо шмат разоў казалася, што ў Еўропы няма дакладнай і паслядоўнай стратэгіі і пазіцыі адносна Беларусі. Гэтаму, не ў малой ступені, спрыяў Аляксандр Лукашэнка, які гойсаў на «геапалітычных арэлях» паміж Захадам і Масквой.

Гэта было ўдала не толькі ў сэнсе атрымання рознага кшталту прэферэнцый і грошай — «ласкавае цялятка дзвюх матак смокча», — а і ў тым, што еўрапейцы не разумелі, куды ў наступны раз занясе беларускую знешнюю палітыку. Адсюль і адсутнасць стратэгіі: каб Беларусь вызначылася, з кім яна, — з Расіяй ці з Захадам, — тады б можна было выбудоўваць з ёй адпаведныя адносіны. А калі яна сама не ведае, чаго хоча, то што можна казаць пра стратэгію?

Зняцце санкцый у дачыненні да кіраўнікоў Беларусі і праўладнага бізнесу дзіўнае і незразумелае і якраз указвае на адсутнасць пазіцыі ЕС адносна Беларусі. Санкцыі прыпыняліся пад цалкам зразумелыя ўмовы: лібералізацыя заканадаўства і правапрымяняльнай практыкі ў дачыненні да СМІ, палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, выбараў. Нічога з гэтага зроблена пакуль не было. І тым не менш, санкцыі здымаюцца.

Цудоўна пра гэта сказала кіраўнік дыпламатыі Еўрасаюза Федэрыка Магерыні на прэс-канферэнцыі па выніках пасяджэння Савета ЕС, на якім санкцыі былі адмененыя. На яе думку, у Беларусі назіраецца пазітыўны трэнд, які Еўропа хоча падтрымаць. Гаворка ідзе пра аднаўленне дыялогу па правах чалавека Беларусі з ЕС, перамовах аб спрашчэння візавага рэжыму, канструктыўнай ролі Беларусі ў рэгіёне, у прыватнасці, у тым, што тычыцца канфлікту ва Украіне, і вызваленні палітвязняў у жніўні мінулага года.

«Вядома, усё далёка не ідэальна, але мы пагадзіліся працягваць палітыку «крытычнага ўзаемадзеяння», дзе хтосьці можа рабіць акцэнт на слове «крытычны», а хтосьці — на «ўзаемадзеянні». Але сутнасць у тым, што мы вырашылі зняць большасць санкцый... Нашы рашэнні заўсёды засноўваюцца на рэальных заслугах. Гэта адносіцца і да сённяшняга выпадку. Калі мы прынялі рашэнне аб прыпыненне санкцый у кастрычніку, мы чакалі канчатковай справаздачы БДІПЧ АБСЕ (па прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі. — НЧ). Яна была апублікаваная ў студзені... Мы прызнаем, што за апошнія гады мы ўбачылі некаторыя натхняльныя крокі. І мы хочам падштурхнуць Беларусь да іх працягу», — сказала яна.

Цікава, якія «натхняльныя крокі» хоча падтрымаць спадарыня Магерыні? За тое, што ў краіне былі выпушчаныя палітвязні (і тое не ўсе — за кратамі застаюцца Андрэй Бандарэнка і Міхаіл Жамчужны), Еўропа ўжо расплацілася прыпыненнем санкцый. Канчатковая справаздача БДІПЧ АБСЕ засведчыла, што выбары ў Беларусі не былі свабоднымі і справядлівымі, і сінявокай «яшчэ патрэбна прайсці значны шлях да выканання абавязацельстваў АБСЕ па дэмакратычных выбарах». Што тычыцца «канструктыўнай ролі Беларусі ў рэгіёне», то гэта, хутчэй, вымушаны крок. Прадстаўнікоў так званых «ЛНР» і «ДНР» не прынялі б нідзе, апроч Мінска, ды яны самі нікуды б больш не паехалі. Тут дыпламаты сінявокай надзвычай удала скарысталіся сітуацыяй.




> **Еўропа закінула мяч на беларускі бок**

Канешне, з еўрапейскага пункту гледжання пазітыўным можа быць «аднаўленне дыялогу па правах чалавека Беларусі з ЕС і перамовы аб спрашчэння візавага рэжыму». Але я нездарма ўзгадаў «геапалітычныя арэлі». Дыялог і перамовы без канкрэтнага выніку — гэта той конь, якога нашы ўлады навучыліся прадаваць усім і заўсёды, пры гэтым пакідаючы каня сабе.

Магчыма, як кажуць некаторыя аналітыкі, Еўропа зняццем санкцый «закінула мяч на беларускі бок», і зараз чакае ад афіцыйнага Мінска крокаў у адказ. У такім выпадку, па-першае, гэта ўжо другі мячык. Першы быў у выглядзе прыпынення санкцый, і ён некуды згубіўся, бо ўлада Беларусі не зрабіла анічога, каб палепшыць сітуацыю з палітычнымі свабодамі ў краіне.

Па-другое, якіх крокаў у адказ чакае Еўропа? Што ўлады Беларусі выканаюць тое, што не выканалі за чатыры месяцы прыпынення санкцый? А чаму яны тады змарнавалі гэтыя месяцы?

Мінск таксама шмат не атрымае з адмовы ЕС ад санкцыяў. Чыноўнікі паедуць у Еўропу? Дык яны і раней яе наведвалі па дыпламатычных працоўных візах. Краіна разлічвае на еўрапейскія інвестыцыі? Для гэтага трэба мяняць унутранае заканадаўства. Нам патрэбныя еўрапейскія крэдыты? Крэдыты абумоўленыя не палітычнымі, а эканамічнымі патрабаваннямі. І МВФ размаўляў з Мінскам пра новую праграму крэдытавання нават «за санкцыямі».

Хутчэй за ўсё, няма ніякіх мячыкаў. Як дакладна і шчыра вызначыў палітолаг Аляксандр Класкоўскі, «адменай санкцый беларускаму кіраўніцтву, цынічна кажучы, праплацілі пазіцыю ў пытаннях бяспекі, вельмі каштоўную для еўрапейцаў з-за страху перад расійскай пагрозай». І ўсё.

Адзіны канкрэтны вынік ад зняцця санкцый вызначылі з'едлівыя карыстальнікі сацыяльных сетак. «Мікалай Лукашэнка атрымаў магчымасць вучыцца ў Гарвардзе», — пішуць у байнэце.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Нізкая выканаўчая дысцыпліна міліцыі




**Пры разглядзе справы супраць Рыгора Грыка і Аляксандра Вайцешыка суд Баранавіцкага раёна вынес прыватнае вызначэнне на адрас міліцыі.**

Судом было ўстаноўлена, што 20 і 22 снежня 2015 года ў краме «Mart Inn» у Баранавічах на рэалізацыі знаходзілася вялікія партыі пратэрмінаваных прадуктаў, якія былі выяўлены Рыгорам Грыкам і Аляксандрам Вайцешыкам. Яны выклікалі санэпідстанцыю, АБЭЗ і паведамілі ў гарвыканкам. За гэта загадчыца крамы Вольга Борыс атрымала штрафы, але вырашыла адпомсціць і звярнулася ў міліцыю. На актывістаў былі складзены пратаколы па абвінавачванні ў хуліганстве.

Як аказалася, участковы інспектар Дзмітрый Герман не толькі склаў непісьменны адміністрацыйны пратакол, не паведаміў актывістам пра яго складанне, не даў ім копіі на рукі, але яшчэ і паводзіў сябе ў судзе нетактоўна і груба, пра што яму неаднаразова было ўказана суддзёй і адвакатам. Канчаткова вывеў з сябе суддзю Юлію Шчэрбу пусты дыск, прыкладзены да абвінавачвання Грыка і Вайцешыка.

У прыватным вызначэнні суддзя адзначыла нізкую выканаўчую дысцыпліну і адсутнасць патрэбнай арганізацыі працы пры падрыхтоўцы справы аб адміністрацыйных правапарушэннях да разгляду. У месячны тэрмін яна запатрабавала паведаміць аб прынятых мерах у суд Баранавіцкага раёна.

**spring96.org**

### ПОЛАЦК. Праваабаронцы аб'ядналіся



**Юрысты і праваабаронцы падпісалі дамову аб сумеснай дзейнасці дзеля аказання бясплатнай дапамогі жыхарам Полацку.**

Палова юрыстаў — удзельнікаў праваабарончай ініцыятывы ўжо знаходзяцца на пенсіі. Яны спадзяюцца, што іх прафесійныя і іншыя веды, навыкі і досвед стануць карысным унёскам у агульную справу.

Адзін з праваабаронцаў, юрыст Свабоднага прафсаюза Беларускага (СПБ) Мікалай Шарах, з'яўляецца сябрам Рады па пытаннях удасканалення заканадаўства ў сацыяльна-працоўнай сферы пры Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны Беларусі. «Словам «праваабаронца» ў нас прынята называць толькі тых, хто адстойвае грамадзянскія і палітычныя правы грамадзян. Мы ж лічым не менш важнымі працоўныя, сацыяльна-эканамічныя і іншыя правы, у якіх ушчамляюцца нашы грамадзяне. Дзеля дапамогі нашым людзям у адстойванні гэтых правоў і створанае ў Полацку Простае таварыства па аказанні дармовых юрыдычных паслуг», — патлумачыў Мікалай Шарах.

Па суботах, у другой палове дня, юрысты-праваабаронцы пачалі прымаць грамадзян для кансультацыяў. Абвесткі пра прыём юрыстаў у Полацку на вуліцы Успенскай, 3, пакой 13, распаўсюджваюцца на дошках аб'яваў.

Палачанам будуць дапамаць пісаць заявы, скаргі (у тым ліку калектыўныя) і іскі ў розныя інстанцыі. Праводзіць кансультацыі па пытаннях працоўных адносінаў з наймальнікам, парушэнняў правоў спажыўцоў, абароны ад самавольства чыноўнікаў.

**Віцебская Вясна**

### ГОМЕЛЬ. Спыні самавольства ў арміі



**Праваабаронцы распачалі кампанію супраць нестатутных адносін ва ўзброеных сілах Беларусі.**

Нагодай для пачатку кампаніі паслужыла здарэнне, якое адбылося ў вайсковай частцы №92616 (Брэст), адкуль 3 лютага збеглі два салдаты, прызваныя ў войска з райцэнтра Ветка, што на Гомельшчыне. Сваякі хлопцаў заяўляюць, што пайсці на крайнія меры маладых салдат вымусілі пагрозы, збіццё і жорсткасць з боку стараслужачых.

Гэты выпадак, на жаль, з'яўляецца пацверджаннем той практыкі, калі нестатутныя адносіны ва ўзброеных сілах у належнай меры не спыняюцца службовымі асобамі ваенных частак і задаюцца пытаннем, што робяць камандзіры вайсковай часткі ў прыватнасці і вышэйшае камандаванне беларускай Арміі ў цэлым, каб нестатутныя адносіны перасталі быць паўсядзённым нормай.

«Афіцыйна ўлада пераконвае нас у адсутнасці нестатутных адносінаў у беларускай арміі. Выпадак, які адбыўся з маладымі салдатамі з райцэнтра Ветка, даказвае адваротнае — «дзедаўшчына» не толькі працягвае сваё пераможнае шэсце ў беларускім войску, яна фактычна ператварылася ў катаванні. Мы не верым, што пра гэтыя катаванні не ведала камандаванне часткі!» — заявіў праваабаронца Леанід Судаленка.

Праваабаронцы заклікаюць праявіць салідарнасць, падпісаць зварот да міністра абароны з просьбай спыніць заганную практыку нестатутных адносін.

**Гомельская Вясна**

# Танцы з санкцыямі

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

**30 студзеня 2016 года каля будынка Вярхоўнага суда Беларусі адбыўся пікет супраць міліцэйскага гвалту.**

11 лютага 2016 года ўдзельнікі пікету былі пакараныя штрафамі ў памерах ад 10,5 (А.Макаеў, М.Вінярскі) да 4,2 (Дз. Красочка) мільёна рублёў. Судзіла ўдзельнікаў пікету суддзя Ленінскага раёна Мінска М.Запаснік.

16 лютага 2016 года іншыя ўдзельнікі таго ж пікету супраць міліцэйскага гвалту пакараныя штрафамі ў тых жа памерах: ад 10,5 (А.Лябедзька, М.Казлоў) да 4,2 (А. Маёрава) мільёна рублёў. Судзіла ўдзельнікаў пікету суддзя Ленінскага раёна Мінска М.Запаснік.

Як бачым, усё стабільна. Нібы за дні ад 11 да 16 лютага нічога не адбылося, не змянілася…

Але ж змянілася — ды яшчэ як! 11 лютага прысуд актывістам беларускага дэмакратычнага руху абвясціла суддзя М.Запаснік, уключаная ў спіс лукашэнкаўскіх служкаў, якім забаронены ўезд у краіны ЕС. А 16 лютага гэткі ж прысуд актывістам беларускага дэмакратычнага руху абвясціла суддзя М.Запаснік, выключаная з гэтага спісу.

15 лютага 2016 года рашэннем Рады міністраў замежных спраў ЕС з гэтага спісу выключаны сам Лукашэнка і найадданыя службы ягонага рэжыму. У тым ліку сілавікі, якія 19 снежня 2010 года ўчынілі ў Мінску крывавую расправу над мірнымі людзьмі, пракуроры і суддзі, якія садзілі ні ў чым не вінаватых людзей у турмы, турэмшчыкі, якія каталі палітвязняў…

Да рашэння, прынятага Радай ЕС 15 лютага, яны ў вачах Еўропы былі тымі, кім яны ёсць: злачынцамі. Цяпер жа яны апраўданыя ў сваіх дзеяннях. Рэабілітаваныя не палітвязні, а іх каты.

Гэта не столькі палітычнае, колькі маральнае рашэнне. І тыя, хто яго прымаў, не маглі гэтага не разумець. Яны сцвярджаюць, што зрабілі такі крок не дзеля таго, каб пасадзейнічаць рэжыму, Лукашэнку і ягоным служкам, а дзеля таго, каб пасадзейнічаць Беларусі, яе народу, беларускім дэмакратычным сілам. Як сказаў адзін з іх: рэальна дапамагчы.

У такім разе я прапаную вось што. Усе квітанцыі на штрафы, якімі будуць пакараныя актывісты беларускага дэмакратычнага руху пасля 15 лютага 2016 года, дасылаць тым міністрам ЕС, якія прагаласавалі за зняцце санкцый з Лукашэнкі, з ягоных чыноўнікаў, сілавікоў, пракурораў, суддзяў.

А калі некага з беларускіх дэмакратычных палітыкаў, актывістаў пасадзяць, дык папрасіць названых міністраў ЕС за іх пасядзець. Бо калі ўжо дапамагаць — дык дапамагаць. Рэальна. Напрыклад, міністру замежных спраў Нямеччыны Франку-Вальтэру Штайнмаеру я быў бы за гэта загадзя ўдзячны.

**naviny.by**

# Што будзе з рублём?

Генадзь КЕСНЕР

**Штотыдзень беларускі рубель то крыху ўзмацняецца, то зноў падае. Чаго чакаць ад нацыянальнай грашовай адзінкі бліжэйшым часам? Па каментар «Новы Час» звярнуўся да аналітыка даследчай групы BusinessForecast.by Аляксандра Мухі.**

«Па сутнасці, Нацыянальны банк Беларусі здолеў перамясціць абменны курс беларускага рубля да расійскага ў больш прымальны дыяпазон, у раён 280 рублёў за 1 расійскі рубель, і гэты курс выглядае больш прымальным для беларускіх экспарцёраў, што працуюць на расійскім рынку, чым курс 245–250 беларускіх адзінак. Нацбанк, як можна назіраць, прывязаў дыяпазон курса беларускага рубля ў памеры 259–296 рублёў за адзін расійскі рубель, каб падтрымаць канкурэнтаздольнасць беларускіх экспарцёраў на беларускім рынку, — адзначае эканаміст. — Крыху незвычайна выглядае дыяпазон, у той жа час гэта сведчыць не аб жорсткай прывязцы».

Але, працягвае суразмоўца, мы назіраем даволі цесную карэляцыю, і далейшая дынаміка беларускага рубля да курса долара і еўра будзе істотна залежаць ад курса расійскага рубля да амерыканскага долара, які, у сваю чаргу, будзе залежаць ад кошту нафты на міжнародным рынку.

Калі будзе ўмацоўвацца расійскі рубель, то і рубель беларускі можа пачаць умацоўвацца. «Аднак, я мяркую, што ён узмоцніцца ў меншай ступені параўнальна з расійскім. Нацбанк, магчыма, пад ціскам ураду можа яшчэ больш прасунуць курс беларускага рубля ў меншы бок да расійскага, нават да 300 адзінак за расійскі рубель, каб крыху аблегчыць жыццё беларускім экспарцёрам на расійскім рынку, павысіць узровень канкурэнтаздольнасці айчынных прадпрыемстваў, якія працуюць на расійскім рынку, і беларускіх прамысловых гігантаў, якія цяпер абсарбуюць дастаткова вялікую колькасць працаўнікоў. То бок, тут яшчэ і пытанні сацыяльныя», — падкрэслівае Аляксандр Муха.

І ўсё ж эксперт прапануе сачыць за нафтавымі коштамі на сусветным рынку. У выпадку іх падвышэння — беларускі рубель будзе расці, хоць і не так хутка, як расійскі. Але найбліжэйшым часам гэта малаверагодна.

# Беларускую мову — у беларускі парламент

Марат ГАРАВЫ

**На чарговым пасяджэнні рады Усебеларускага кангрэсу за незалежнасць абмеркавалі ідэю стварэння грамадзянскай ініцыятывы «Беларускую мову — у беларускі парламент!».**

Гаворка ішла пра тое, што патрыёты Беларусі незалежна ад нацыянальнасці, палітычных і рэлігійных перакананняў аб'ядноўваюцца ў грамадзянскую ініцыятыву для актыўнага ўдзелу ў парламенцкіх выбарах у верасні гэтага года. Прычым вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты можа адбывацца як ад зарэгістраваных палітычных партый, так і шляхам збору подпісаў грамадзянаў.

Мяркуецца, што ініцыятыва аб'яднае кандыдатаў у дэпутаты па ўсіх 110 выбарчых акругах краіны, сябраў ініцыятыўных групаў па зборы подпісаў і назіральнікаў, прычым кожны кандыдат будзе праводзіць сваю выбарчую кампанію выключна па-беларуску і будзе змагацца за тое, каб новы склад айчыннага парламенту працаваў выключна па-беларуску, прымаў на дзяржаўнай беларускай мове ўсе заканадаўчыя акты, унёс неабходныя змены ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і прыняў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы».

Апроч беларускай мовы, дзейнасць ініцыятывы будзе абапірацца на прынцып справядлівых выбараў і каштоўнасці еўрапейскай дэмакратыі. Сябры рады Усебеларускага кангрэсу за незалежнасць таксама выступілі за стварэнне аднапалатнага парламенту з традыцыйнай беларускай назвай Сойм, які будзе працаваць на дзяржаўнай беларускай мове. Пры неабходнасці праекты законаў будуць перакладацца на рускую і іншыя мовы, якія ўжываюцца на тэрыторыі Беларусі. Прычым заробак дэпутатаў парламенту не павінен перавышаць сярэдні заробак па краіне.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Зноў у сметніцу?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Новыя жыроўкі, якія атрымалі грамадзяне Беларусі, непрыемна здзівілі. Людзям прапануюць заплаціць за камунальныя паслугі ад мільёна да двух з паловай. А ўрад піша новыя планы, бессэнсоўна знішчаючы лясное багацце краіны.**



Фота www.volzsky.ru

Нас доўга пераконвалі ў тым, што стопрацэнтная аплата паслуг ЖКГ — гэта патрабаванне Міжнароднага валютнага фонду для таго, каб выдаць Беларусі крэдыт у $3 мільярды. Калі так, то гэты крэдыт мы павінны атрымаць імгненна, і ў памеры не трох, а пяці мільярдаў.

Калі меркаваць па жыроўках за студзень, фота якіх адразу ж запаланілі інтэрнэт, грамадзяне даўно ўжо плацяць больш за 100% ЖКГ. Напрыклад, жыхар Мінска Аляксей Стахоўскі выявіў у сваёй жыроўцы, што яму як плацельшчыку трэба будзе пакрыць аж 123% кошту жыллёва-камунальных паслуг! Яшчэ аднаму з мінчукоў Яўгену Харужаму налічылі 129% кампенсацыі выдаткаў на ЖКГ. І гэта толькі два выпадкі, якія разышліся ў сеціве. А колькі народу заплаціла, нават не зазіраючы ў лічбы?

Тут вельмі шмат пытанняў. Цікава, ці выкананае даручэнне Лукашэнкі прадставіць яму самому «празрыстыя тарыфы» на ЖКГ? Апроч таго, цікавыя лічбы прывёў Дзяржкантроль Беларусі. Па ягоных звестках, толькі прыпіскамі ў мінулым годзе сабекошт жыллёва-камунальных паслуг быў завышаны на 1,5 трыльёна рублёў. Па ягоных жа дадзеных, марнатраўства ў сістэме ЖКГ можа займаць да паловы сабекошту паслуг. Звяртаючыся да беларускага народа і парламента ў 2014 годзе, Аляксандр Лукашэнка сказаў адносна працы ЖКГ: «На першым этапе расследавання ўбачылі там каласальнае завышэнне тарыфаў, якія пакрываюцца бюджэтам». Цяпер, калі дзяржава змяншае пакрыццё паслуг ЖКГ з бюджэту, камунальнікі гэтае «каласальнае завышэнне тарыфаў» хочуць аплаціць з кішэняў грамадзян?

Ёсць яшчэ адзін моманту гэтым пытанні. У 2010 годзе Лукашэнка казаў людзям: «Мы можам зрабіць як у Еўропе, але тады будзеце, як і ў іх, плаціць поўны кошт. Калі народ хоча атрымліваць $1,5–2 тысячы заробку, давайце дадзім, але за паслугі будзеце плаціць рэальную цану». «Напэўна, гэта было б справядліва: даць гэтыя грошы, каб людзі самі распараджаліся, што з імі рабіць… Калі б вы захацелі, мы б зрабілі гэта на працягу аднаго — двух гадоў. Але былі б рынкавыя цэны на гэтыя паслугі. Я нават баюся думаць, як вас у гэта жыццё акунуць», — казаў Лукашэнка.

Зараз у гэтае жыццё мы акунуліся. Калі мы плацім 125% ЖКГ, дзе нашы $2 000 заробку?

Нашы $2 000 заробку пайшлі на аплату новай бессэнсоўнай праграмы ўрада. Двух месяцаў не прайшло з моманту прыняцця бюджэту краіны — і яго ўжо выкінулі ў сметніцу як нерэалістычны. Зараз прэм'ер Кабякоў прадставіў новую праграму дзейнасці ўрада на 2016–2020 гады. Па ягоных словах, ужо 16 лютага яна павінна была быць перададзеная ў парламент, нягледзячы на тое, што ў Палаты прадстаўнікоў зараз — зімовыя канікулы, і сесія пачнецца не раней красавіка.

Што гэтым разам нам абяцае Кабякоў? Першачарговыя задачы для органаў дзяржаўнага кіравання, пазначаныя ў дакуменце, — аднаўленне канкурэнтаздольнасці прамысловага комплексу, павышэнне эфектыўнасці работы АПК, дыверсіфікацыя экспарту, рацыянальнае імпартазамяшчэнне, стварэнне новых працоўных месцаў, развіццё малога і сярэдняга бізнесу, эфектыўнае крэдытаванне, канцэнтрацыя рэсурсаў на эфектыўных інвестыцыйных праектах.

**Замест таго, каб займацца справамі, нашы чыноўнікі пішуць паперкі пра тое, як трэба займацца справамі**

Сярод прыярытэтаў таксама — выкананне валютных абавязацельстваў, паляпшэнне ўмоў вядзення бізнесу, зніжэнне адміністрацыйнай нагрузкі, укараненне механізму ацэнкі рэгулятарнага ўздзеяння на бізнес. Пры гэтым кантрольная дзейнасць павінна насіць, перш за ўсё, прафілактычны і папераджальны характар, падкрэсліў Андрэй Кабякоў.

Гэтай хохме ўжо сто гадоў. Ледзьве не ад пачатку свайго кіраўніцтва Аляксандр Рыгоравіч патрабуе, напрыклад, «дыверсіфікацыі экспарту». Што-небудзь змянілася за гэты час? Тое ж тычыцца «павышэння эфектыўнасці работы АПК». У мінулым годзе Лукашэнка выдаў таямніцу, што за 10 гадоў краіна ўклала ў развіццё сельскай гаспадаркі $45 мільярдаў. Насамрэч, значна больш, бо толькі за 2011–2015 гады фінансаванне дзяржаўных праграм АПК склала 410 трыльёнаў рублёў, што эквівалентна $43,8 мільярда. А яблыкі ў нашых крамах дагэтуль польскія ды галандскія.

Пра «развіццё малога і сярэдняга бізнесу» шмат казалі прадпрымальнікі на гэтым тыдні, якія дайшлі да таго, што несанкцыянавана сабраліся на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. Указ №222, які пазбавіў іх працы, не адменены, і адмяняць яго, гледзячы па ўсім, не плануюць. Рынкі ўжо два месяцы стаяць колам — з-за бюракратычных забаронаў гандляваць немагчыма. Тысячы людзей засталіся без працы, мясцовыя бюджэты — без падаткаў, рынкі і гандлёвыя комплексы — без арэнднай платы, а насельніцтва — без выбару тавараў.

Пра «эфектыўныя інвестыцыйныя праекты» ды «стварэнне новых працоўных месцаў» я ўжо маўчу.

Карацей, «новая» праграма дзейнасці ўрада напоўненая дзесяцігадовай даўніны лозунгамі. Можа, урад падумаў, хто і як будзе ажыццяўляць гэтыя лозунгі? Не. Замест працы нам абяцаюць толькі павышэнне паперазвароту. «Падрыхтавана адразу сем праектаў указаў кіраўніка дзяржавы і пастаноў урада, накіраваных на забеспячэнне эканамічнай бяспекі краіны, мабілізацыю рэсурсаў, павышэнне аператыўнасці і комплекснасці прыняцця рашэнняў на ўсіх узроўнях кіравання, павышэнне канкурэнтаздольнасці эканомікі, а таксама кансалідацыю бюджэту», — падкрэсліў Кабякоў.

Замест таго, каб займацца справамі, чыноўнікі пішуць паперкі пра тое, як трэба займацца справамі. І не дзіўна, што пасля гэтага Кабякоў папярэджвае беларусаў: можа быць яшчэ горш.

І яшчэ адна цікавая рэч. Саўмін выставіў прагноз сярэднегадавога курса долара ў 22 719 беларускіх рублёў за 1 долар. Але ж у гэтым годзе ўрад павінна прайсці дэнамінацыя «адзін да дзесяці тысячаў». Зразумела, што лагічна б было вылічваць бюджэты і прагнозы ў новых грошах. Дык вось, цікава было б запытацца ў Кабякова: такі курс закладзены ўжо ў дэнамінаваных рублях? Тады нам дакладна капец.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алена Танкачова

**Міністэрства ўнутраных спраў адмовіла праваабаронцы датэрмінова вярнуцца ў краіну.**

Адказ на ліст ад 12 студзеня быў атрыманы Аленай Танкачовай 15 лютага за подпісам намесніка кіраўніка МУС Мікалая Мельчанкі.

Згодна з адказам, знаходзячыся ў Беларусі, Танкачова неаднаразова прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці, што стала падставай для яе дэпартацыі. «Нарматыўныя прававыя акты даюць МУС Беларусі права, а не ставяць у абавязак скарачаць тэрмін забароны ўезду ў Рэспубліку Беларусь замежнаму грамадзяніну. З улікам выкладзенага, у задавальненні хадайніцтва аб скарачэнні тэрміну забароны ўезду ў Беларусь вам адмоўлена», — напісаў Танкачовай Мельчанка.

У лістападзе 2014 года УУС Першамайскага раёна Мінска прадпісала грамадзянцы Расіі Алене Танкачовай на працягу месяца пакінуць Беларусь і забараніла ёй наведваць краіну тры гады. Падставай для гэтага сталі зафіксаваныя відэакамерамі факты нязначнага перавышэння хуткасці аўтамабілем, які належыць Танкачовай. Спробы абскардзіць рашэнне УУС у судзе не мелі поспеху, і 21 лютага яна вымушаная была пакінуць Беларусь, дзе пражыла прыблізна 30 гадоў.

На працягу 20 гадоў Танкачова ўзначальвала праваабарончы «Цэнтр прававой трансфармацыі». Прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці расцанілі дзеянні ўладаў як палітычна матываваныя, звязаныя з праваабарончай дзейнасцю Танкачовай. Пад просьбай не высылаць Танкачову было сабрана 7 000 подпісаў, але на рашэнне ўладаў гэта не паўплывала.



## Лілія Ананіч

**Кіраўніца Мінінфармацыі выказала сваё меркаванне наконт працы журналістаў у Беларусі.**

На яе думку, журналісты павінны накіраваць усю сваю інфармацыйную сілу на выхаванне патрыятызму.

«Глыбокая патрыятычная журналістыка, сродкі масавай інфармацыі адыгрываюць важкую ролю ў развіцці беларускай дзяржавы. 2015 год яшчэ раз пацвердзіў упэўнены курс беларускага народа на будаўніцтва незалежнай Беларусі. Нараўне з галоўнымі сімваламі суверэннай Беларусі, якімі з'яўляюцца герб, сцяг і гімн, стаяць нацыянальныя сродкі масавай інфармацыі, інфармацыйная прастора краіны», — сказала Ананіч у час узнагароджання пераможцаў штогадовага творчага конкурсу на лепшае асвятленне ў СМІ пытанняў будаўніцтва і развіцця Узброеных Сіл, патрыятычнага выхавання насельніцтва.

«Мы ведаем, што лепшыя журналісты працуюць у сферы асвятлення будаўніцтва і развіцця Узброеных Сіл, расказваючы пра нялёгкія армейскія будні і ўмацоўваючы веру беларускага народа ў тое, што наша армія здольная абараніць рубяжы Айчыны», — дадала яна.

Пры гэтым, паводле Ананіч, важна, каб журналісты накіравалі ўсю сваю інфармацыйную сілу на выхаванне падрастаючага пакалення. «Каб тыя мятавыя ўкіды, якія робіцца з розных бакоў і з'яўляюцца ні чым іншым, як спробай расхістаць наша грамадства і дзяржаву, упіраліся ў цвёрдую веру кожнага, у патрыятызм», — падкрэсліла кіраўнік ведамства.



## Андрэй Кавалёў

**Галоўны трэнер хакейнага клуба «Дынама» (Мінск) папрасіў прабачэння ў балельшчыкаў за няўдалае выступленне каманды ў чэмпіянаце КХЛ.**

«Прашу прабачэння за невыкананне задачы, — сказаў Кавалёў 16 лютага на прэс-канферэнцыі пасля заканчэння матчу з маскоўскім «Спартаком» (2:5). — Ніяк не можам разабрацца, чаму ў гульнях з топ-камандамі — СКА, «Ёкерыта» — па дзесяць разоў пад шайбу кладземся, а не з топ-камандамі можам і ні разу не легчы».

Як прызнаўся трэнер, да хакеістаў не ўдалося давесці, што настройвацца трэба на любога суперніка.

У паядынку са «Спартаком» не было ні аднаго выдалення, што для хакея — рэдкасць. Як лічыць Кавалёў, для барацьбы «матывацыі замала было, на жаль». «Хацелі згуляць як лепш, але атрымалася, што атрымалася. У нас яшчэ ёсць адна гульня, зробім высновы і пастараемся парадаваць балельшчыкаў», — сказаў Кавалёў.

Азбука паліталогіі

# Дзіўныя рэвалюцыі



Сяргей НІКАЛЮК

**Рэвалюцыя — лакаматыў гісторыі, сцвярджаў Карл Маркс. Аднак на нашых землях гэты лакаматыў усё мінулае стагоддзе бегаў па кругу.**

У папярэднім нумары «Азбукі паліталогіі» (гл. «Калі не я, дык хто?») з дапамогай гісторыка Уладзіміра Булдакова мы разгледзелі тры стадыі крызісу: этычную, ідэалагічную і палітычную. Іх поўны спіс уключае таксама арганізацыйную, сацыяльную, ахлакратычную і рэкрэацыйную стадыі.

Але перадусім неабходна канкрэтызаваць паняцце «крызіс». Паводле Вікіпедыі, крызіс — гэта «стан, пры якім існуючыя сродкі дасягнення мэтаў робяцца неадэкватнымі, у выніку чаго ўзнікаюць непрадказальныя сітуацыі».

У межах беларускай мадэлі адзіным суб'ектам з'яўляецца ўлада. Толькі яна надзеленая правам і рэсурсамі для пастаноўкі публічных мэтаў і іх рэалізацыі. Мэтай улады з'яўляецца... утрыманне ўлады. Такая вось таўталогія.

Між тым, крызіс — гэта нармальны стан капіталістычнай эканомікі і дэмакратычных палітычных сістэм. Непрадказальнасць сітуацыі не пагражае ім разбурэннем. Наадварот, яна выступае ў якасці абавязковай умовы развіцця. Аўтар тэрміна «стваральнае разбурэнне» эканаміст Іосіф Шумпетэр галоўную прычыну крызісаў звязваў з залішняй колькасцю інавацый, засваенне якіх немагчымае без разбурэння састарэлых эканамічных структур. Крызіс і бярэ на сябе ролю разбуральніка старога.

Аднак «наш крызіс» — гэта этап у развіцці «ўладнай вертыкалі», калі яна перастае адпавядаць зменлівым знешнім і ўнутраным выклікам. У выніку не толькі ўлада, але і грамадства спаўзаюць у хаос і смуту, якую ў нас прынята называць «рэвалюцыяй».

### Негатыўны адбор

Арганізацыйны кампанент крызісу звязаны з неэфектыўнасцю, якая ўвесь час расце, а затым і з распадам кіраўнічых структур, у тым ліку і наноў узніклых. Яго вастрыня вызначаецца як знешнімі фактарамі (няўменнем рэагаваць на змененыя абставіны), так і ўнутранымі збоямі.

На сёння арганізацыйны кампанент, бадай, самы «прасунуты» — яго наяўнасць прызнае нават адзіны палітык (АП). У сваіх рашэннях АП прывык ісці «ад жыцця». А жыццё крута мяняецца. Непазбежнасць рэформ ужо выразна ўсвядомленая эканамічным блокам «уладнай вертыкалі», які цісне на АП. І той вымушаны абараняцца. 26 студзеня АП у чарговы раз быў вымушаны растлумачыць, што «так званыя рэформы для сябе» будуць не толькі «адрынутыя народам», але і «дэстабілізуюць абстаноўку», «*и тогда нам потребуется при потере управляемости* (выдзелена. — С.Н.) *возможно, и лица власти, денег гораздо больше, чем надо, допустим, сегодня для погашения внешнего заимствования*».

**Праблемы 1990-х гадоў засталіся ззаду дзякуючы хуткаму эканамічнаму росту. Яго пік у Беларусі прыпаў на 2006 год**

Згода ўлады на рэформы — сведчанне яе смуты. У эканамічным блоку згода ўжо дасягнутая. Але АП не забыў шок, які ён перажыў у пачатку 90-х гадоў. Адсюль чаплянне за міфалагему парадку і стабільнасці. Адсюль жа вера ў магчымасць з дапамогай ручнога кіравання (мадэрнізацыі кіравання) павысіць канкурэнтаздольнасць эканамічнага складніку беларускай мадэлі.

Тут варта патлумачыць, што з часоў сталінскага «таталітарызму» планавая дырэктыўнасць наверсе спараджае хаос знізу. Таму чым больш жорсткая «ўладная вертыкаль», тым верагодней надыход арганізацыйнага хаосу.

«Чыноўніцкая закасцянеласць, — тлумачыць Булдакоў, — спараджае не менш дэструктыўны эфект. У пачатку XX стагоддзя, паводле ацэнак сучаснікаў, у вярхах сканцэнтравалася «ўся гама расійскіх бяздарнасцяў, дурняў, істэрыкаў і рабаўнікоў». Кіраўнічы крызіс «развітога сацыялізму» адлюстроўваў няздольнасць камбюракратыі і «чырвоных дырэктараў» абслугоўваць утопію інакш, чым пры дапамозе прыпісак і пазаэканамічнага прымусу».

Чыноўніцкая закасцянеласць — прамое следства негатыўнага адбору, які развіваецца ў неканкурэнтным асяроддзі. За мінулае стагоддзе істотных зрухаў у гэтым пытанні не адбылося. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што адной з прычын, якая блакуе правядзенне рэформаў, памочнік прэзідэнта па эканоміцы Кірыл Руды на Кастрычніцкім эканамічным форуме назваў адсутнасць ва ўрадзе спецыялістаў з вопытам «працы ў рынкавых умовах».

Развіццё арганізацыйнага кампанента крызісу стымулюе калегаў. У прыватнасці, няздольнасць улады размяркоўваць рэсурсы па справядлівасці паскарае яе грэхападзенне ў вачах патэрналісцкай «большасці», што з'яўляецца ключавым момантам у развіцці этычнага кампаненту крызісу.

### Бюджэт як крыніца няроўнасці

У аснове сацыяльнага складніку крызісу ляжыць абвостранае імкненне адных соцыумаў выжыць за кошт іншых. Сацыяльныя страхі перад невядомым двойчы ў мінулым стагоддзі выклікалі да жыцця феномен этнакансалідацыі і этнаізаляцыі. Гэта з'ява атрымала памылковае — сепаратысцкае — вытлумачэнне. Так званыя «нацыянальныя рухі пачатку XX стагоддзя» былі звязаныя, галоўным чынам, са складанасцямі сацыяльнага выжывання, а не з імкненнем да свабоды. Характэрна, што бальшавікі, якія падтрымалі «нацыянальна-вызваленчыя» рухі ўнутры імперыі да Кастрычніка і ў пазнейшы час, усяляк адмяжоўваліся ад «буржуазных нацыяналістаў».

Равеснікі перабудовы, безумоўна, памятаюць пытанне: «Хто з'еў маё сала?». Перакананасць у тым, што Масква жыруе за кошт перыферыі, была тады ўсеагульнай. Адсюль — імкненне вызваліцца ад апекі. Адсюль — вера ў магчымасць пераадолення эканамічнага крызісу за кошт справядлівага пераразмеркавання ўласных рэсурсаў.

У 1917 годзе ва ўмовах недахопу ўсяго, што неабходна для жыцця, людзі вырашылі: справядлівасць дасягаецца шляхам ліквідацыі багатых. У 1991 годзе ў абстаноўцы татальнага дэфіцыту яны «даспелі» да ідэі пазбаўлення ад беднасці за кошт пераходу да рынку і дэмакратыі. Па факце ж атрымалі «гэтых на іншамарках», г.зн. «новых беларусаў» і «новых рускіх».

Між тым, сацыяльная справядлівасць у сучасным свеце будуецца на аснове індывідуалізацыі працоўных намаганняў, а не на размеркаванні дзяржавай прадуктаў па «цэхаваму» прынцыпу. На жаль, гэты галоўны ўрок гісторыі масавай свядомасцю так да канца і не засвоены.

Праблемы 1990-х гадоў засталіся ззаду дзякуючы хуткаму эканамічнаму росту. Яго пік у Беларусі прыпаў на 2006 год. Але сітуацыя можа паўтарыцца: калі эканоміка будзе і далей падаць, то цяперашні трэнд на зніжэнне рэальных даходаў насельніцтва ўзновіць у сучаснасці прызабытае мінулае.

Фарміраванне сацыяльнага складніку крызісу на за гарамі. Са свайго боку, «дзяржава для народа» робіць усё магчымае, каб паскорыць яго набліжэнне. Ахвочым пераканацца ў гэтым я рэкамендую звярнуцца да бюджэту на 2016 год. Ён прадугледжвае павелічэнне расходаў на 6,9%, што значна ніжэй за афіцыйны прагноз па інфляцыі. Такім чынам, у поўнай адпаведнасці з планам, многія бюджэтнікі ў бягучым годзе збяднеюць. Нескладана здагадацца, што гэты лёс абміне бюджэтнікаў у пагонах. У лідарах сярод лідараў будуць служачыя дэпартамента выканання пакаранняў і ўнутраных войскаў, чые даходы павялічацца на 18,9 і 19,9%.

### Кожнай жанчыне — па мужыку

Ахлакратыўны складнік крызісу не варта атаясамліваць з анархіяй. Яна звязаная з вылучэннем на першы план маргінальных элементаў, якія зыходзяць з ваяўніча-спажывецкіх установак. У гэты перыяд кіруе натоўп або адпаведныя стэрэатыпы паводзінаў.

Ахлакратыя праяўляе сябе ва ўмовах рэгрэсу калектыўнай псіхікі да архаічных адносін і дамінавання інфантыльных эмоцый на ўсіх сацыяльных узроўнях. Асабліва гэта заўважна ў кропках біфуркацыі, калі правадыры охласу задаюць і навязваюць мэты і спосаб паводзін усяму грамадству. Пры гэтым сувязь лідар—масы набывае спрошчаны «правадырскі» характар. На гэтай аснове ўзнікае адчуванне знітаванасці, якая здольная супрацьстаяць варожаму свету.

У 1917 годзе ахлакратыя найбольш яскрава праяўляла сябе праз палітычны лозунг: «Рабуй нарабаванае» і праз рост самасудных расправаў. Сучасны правадыр ахлакратыі ў Расіі — Уладзімір Жырыноўскі. Варта хаця б прыгадаць яго абяцанне даць кожнай жанчыне па мужыку, а кожнаму мужыку — па бутэльцы гарэлкі.

У 1994 годзе ў Беларусі маргінальныя элементы прадвызначылі вынік першых прэзідэнцкіх выбараў. Першыя выбары апынуліся і апошнімі. Спасылка АП на народ, што не прымае «так званыя рэформы для сябе», сведчыць пра актуальнасць ахлакратычнай стадыі крызісу. Два дзесяцігоддзі яна знаходзілася ў адносна латэнтнай форме. Але сёння, мяркуючы па ўсім, гатовая зноў актывізавацца.

### Ламаць — не ствараць

Рэкрэатыўны кампанент крызісу пераважае ў той момант, калі «чалавек натоўпу» зноў згаджаецца на ролю істоты, якой кіруе дзяржава. Пры гэтым актывізуецца псіхалагічны кампанент «уцёкаў ад свабоды». У найноўшай гісторыі Беларусі гэты кампанент канчаткова сфармаваўся пасля канстытуцыйнага рэферэндуму 1996 года. Ён стаў заключным акордам рэвалюцыйнай смуты і дазволіў умацавацца «дэспатычнай дэмакратыі». Кола замкнулася. «Дзяржаўнасць, — паводле трапнай заўвагі Булдакова, — адрадзілася з дапамогай традыцыі, якая супакоілася».

Паводле Маркса, рэвалюцыя — лакаматыў гісторыі. Аднак на нашых землях гэты лакаматыў усё мінулае стагоддзе бегаў па кругу.

Дзіўныя атрымліваліся рэвалюцыі. Яны руйнавалі стары свет, але адбудаваць новы свет не здолелі. Безумоўна, нешта мянялася. Імператар, генеральны сакратар, прэзідэнт... Гэта ўсяго толькі формы непадкантрольнай грамадству ўлады.

Але праблема кантролю — гэта праблема грамадства. Рухаючай сілай буржуазных рэвалюцый было трэцяе саслоўе. Яно ўсведамляла свае інтарэсы, і дзеля іх рэалізацыі не мела патрэбы ў патэрналісцкай дзяржаве.

Беларуская апазіцыя традыцыйна канцэнтруе свае намаганні на задачы адхілення АП і наіўна мяркуе, што сам факт перамогі на выбарах здольны гарантаваць незваротнасць дэмакратычных пераўтварэнняў.

Досвед Украіны не пацвярджае такія спадзяванні.






# Не крызіс, але новы статус-кво



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Цяперашняя сітуацыя ў эканоміцы — гэта не крызіс. Крызісы прыходзяць і сыходзяць, а гэтым разам нішто само па сабе не сыдзе. Тое, што мы бачым сёння, — гэта новая эканамічная рэальнасць, новая пляцоўка для старту. У некаторым сэнсе мы вярнуліся ў сітуацыю 1995 года, зноў рэзка збяднеўшы і апынуўшыся перад выбарам: пачынаць структурныя рэформы або закансерваваць наяўную сацыяльна-эканамічную мадэль.**

## Новая стартавая пляцоўка

Увесь 2015 год мы былі ўпэўненыя, што такі ён і ёсць — крызіс. Аднак сапраўдны крызіс прыйшоўся толькі на снежань 2014-га. І тады мы не асабліва нерваваліся — мы ўсе ведалі, што ўмеем праходзіць скрозь крызісы. Мы перажылі крызіс сярэдзіны 1990-х, перажылі крызісы 2009 і 2011 гадоў, і зараз вырашылі, што трэба проста перажыць 2015-ты. А потым усё наладзіцца — вырасце кошт на нафту, вырастуць і прыбыткі бюджэту, эканоміка «пачне дыхаць», прадпрыемствы атрымаюць замовы і вернуцца да поўнага працоўнага тыдня, а грошай у кішэні паболее. Гэта значыць, крызіс як прыйшоў, так і сыдзе.

Так лічаць простыя людзі вакол, так лічыў і ўрад, бадзёра закладваючы ў праект бюджэту нафту па $50. Але зараз, праз 14 месяцаў пасля снежаньскага шаленства 2014-га, робіцца зразумелым: гэта не крызіс, а цалкам іншая рэальнасць нашага жыцця. І абрынутыя кошты на нерухомасць ужо не вырастуць да восені 2016-га. І заводы не пачнуць зноў зарабляць на шчодрых расійскіх замовах.

А значыць, нам трэба будаваць эканоміку — і нацыянальную, і асабіста кожнага з нас, — фактычна зноўку, адштурхваючыся ад таго, што маем сёння. Але пачаць усё роўна давядзецца з усведамлення таго, дзе мы на самай справе знаходзімся. А гэта ўсведамленне так проста не прыйдзе. Бо за апошнія 15 гадоў мы звыклі да таго, што практычна ў кожнага з нас усё становіцца лепш: заводы працуюць, кіраўнік Беларусі нібыта даваў зарплату да «папіццот», адпачынкі і святы — гэта святое, жыццё становіцца лягчэй, а далягляды — ярчэй. І на самай справе, жыццё ў 2010 годзе ўжо было не параўнаць з тым, што мы бачылі яшчэ ў 1997-м. На такім фоне нават рэзкія дэвальвацыі ўспрымаліся з нейкім дзіўным разуменнем: маўляў, ясная справа — не можа быць росту без складанасцяў. Аднак усё роўна ўсё выправіцца, і «заўтра» ў кожнага будзе лепей за «ўчора».

Як вынік, нават сёння, адчуўшы на сабе новую і ацвераджальную эканамічную рэчаіснасць, надта многія працягваюць жыць старымі меркаваннямі аб тым, што гэта проста чарговы крызіс, што хутка ўсё само сабой знікне, і сітуацыя змяняцца да лепшага. Усведамленне таго, што гэта не крызіс, а новая рэчаіснасць, зойме нейкі час — але зацягваць яго нельга. Таму што цяперашняя сітуацыя не прабачае памылак, і традыцыйныя праблемы беларускіх прадпрыемстваў у выглядзе неэфектыўнасці кіравання або няўмення прадаваць уласную прадукцыю ўжо не кампенсуюцца вонкавай кан'юнктурай.

Аднак калі паназіраць за дзеяннямі кіраўніцтва краіны, то робіцца зразумелым: яно засяродзілася на пераасэнсаванні, рэфлексіі ды настальгаванні — але не на дзеяннях у адпаведнасці з новай рэальнасцю. Кіраўнік Беларусі то рэзка адмаўляецца праводзіць структурныя рэформы, то абяцае гэтыя самыя рэформы прадстаўнікам МВФ.

Калі што і трэба зрабіць, не толькі органам дзяржкіравання, але і ўсёй краіне ў цэлым, то гэта зразумець: заўтра лепей не стане. Кошты на нафту не вырастуць, а значыць, не вырасце і попыт на нашу прадукцыю з боку Расіі, не вернуцца ранейшыя прыбыткі ад нафтаперапрацоўкі. Яшчэ больш абваліцца ўсё гэта можа, а вырасці да таго ўзроўню, каб стала значна лепш, — гэтага ў найбліжэйшыя гады не адбудзецца. Крыніцы росту свайго дабрабыту трэба шукаць у іншых месцах. А адначасова — падымаць якасць кіравання, культуру вытворчасці, энергаэфектыўнасць усяго, што толькі можна, і прадукцыйнасць працы. Пакуль жа мы па гэтых паказчыках застаёмся на ўзроўні не самых развітых афрыканскіх дзяржаў.

Паўтаруся: сённяшнюю сітуацыю лепш за ўсё параўнаць з сітуацыяй 1995 года. Вось толькі тады ніхто не лічыў, што гэта часовы крызіс, і праблемы хутка знікнуць самі сабой. Тады было зразумела, што трэба дзейнічаць, трэба выбіраць шлях развіцця. На жаль, кіраўніцтва краіны абрала кансервацыю квазісацыялізму і жыццё практычна за кошт Расіі, яе датацый і яе бяздоннага (як тады здавалася) рынка. Сёння мы зноў перад такім жа выбарам. Гэтым разам было б пажадана не памыліцца.

## Новая планка спажывання

У 2010 годзе абяцанні кіраўніка дзяржавы сярэдняй зарплаты ў 2015-м у $1000 успрымаліся амаль сур'ёзна. Сёння — ужо як анекдот. Так, $500 «на нос» дасягнулі — але вельмі хутка і страцілі. Сёння нават $300 «чыстымі» атрымліваюць у краіне далёка не ўсе. Беларусам цяпер давядзецца змірыцца з новай — значна ніжэйшай — планкай спажывання. Гэта новая рэчаіснасць.

Гэта ўскосна і наўпрост пацвярджаецца штодзённа і паўсюль. Пачынаючы прыкладна з 2010-га і па 2015-ты пасля кожных навагодніх святаў на сметніку поруч з маім домам было нямала упаковак ад сучасных тэлевізараў ды ноўтбукаў. У людзей былі грошы, і яны дазвалялі сабе падвышаць якасць жыцця нават на фоне самой высокай у Еўразіі інфляцыі. Але пасля сустрэчы 2016-га на сметніку не з'явілася аніводная скрынка. Справа тут не ў тым, што ўсё ўжо памянялі тэлевізары (мяркую па ўласных суседзях). Проста грошай няма.

Далей — болей. Пачынае змяняцца структура харчавання, і гэта таксама доўгатэрміновы працэс. Супрацоўнікі гастраномаў сведчаць: расце спажыванне хлеба і бульбы, якія людзям прасцей сабе дазволіць, чым мяса або сыр. Яшчэ расійскі гісторык Алег Хляўнюк вывеў трыяду «хлеб — бульба — гарэлка», як мадэль харчавання сталінскага перыяду, якая, тым не менш, засталася характэрная і для пазнейшых, збольшага болей «тлустых» савецкіх гадоў, і для цяжкага пачатку 1990-х.

Потым прыбыткі беларусаў выраслі, іх рацыён стаў нашмат разнастайней. Але сёння ківач пайшоў у супрацьлеглы бок — і да звыклай трыяды рацыёну харчавання вяртаецца істотная частка насельніцтва. Усё болей людзей плануюць карміцца з асабістай гаспадаркі.

Агульнае падзенне прыбыткаў у грамадстве прывяло да росту значнасці пенсій. Сёння ўсё часцей можна бачыць сем'і, у якіх пенсія бабуляў-дзядуляў — галоўны, калі наогул не адзіны, стабільны прыбытак. Таму што маладыя, нават маючы працу, скажам, на дзяржпрадпрыемстве, забяспечыць сябе проста не ў стане. Гэта, дарэчы, адметная асаблівасць менавіта беларускай эканамічнай мадэлі: на эканамічныя праблемы яна рэагуе не беспрацоўем і структурнымі рэформамі, а паніжэннем заробкаў і памяншэннем працоўнага тыдня.

Усё гэта (маючы на ўвазе падобную сітуацыю ў Расіі), дарэчы, ужо зразумелі расійскія банкі, якія ў сваіх дакладах па выніку 2015-га абвясцілі аб знікненні спажывецкай мадэлі эканомікі Расіі, якая вызначала яе развіццё апошнія 15 гадоў. Магчымасцяў для хуткага росту прыбыткаў, імпарту і спажывання аналітыкі больш не бачаць. Напрыклад, інвестыцыйны дэпартамент Ашчадбанка піша аб новай макраэканамічнай рэальнасці, да якой трэба рыхтавацца Расіі. «Мы лічым, што доўгатэрміновыя тэмпы эканамічнага росту ў новай рэальнасці будуць нізкімі, курс рубля — слабым, а спажывецкі попыт ужо не будзе галоўным фактарам росту эканомікі», — рэзюмуюць эксперты Ашчадбанка.

Таксама англійская BBC цытуе эканамістаў «Альфа-банк», якія ў снежаньскім дакладзе аб расійскай эканоміцы пішуць, што спажывецкая мадэль росту эканомікі вычарпала сябе. Расіянам давядзецца прыцішыць свае чаканні і рыхтавацца да доўгага перыяду, калі заробкі нават у рублях расці не будуць, а выдаткі давядзецца рэзка скарачаць. На рост сацыяльных выдаткаў урада або крэдыты ва ўмовах падзення коштаў на нафту і слабай дынаміцы эканомікі разлічваць таксама не варта, упэўненыя ў «Альфа-банку». Пры гэтым нават нафтавы картэль АПЕК прагназуе вельмі павольны рост сусветных коштаў на нафту — і так да 2040-га. Адпаведна, да таго часу наўрад ці можна чакаць бурнага росту эканомікі і спажыванні ў Расіі.

А значыць, і ў Беларусі таксама. Пачынаем зноўку, сардэчна запрашаем у 1995-ты. Цікава толькі, куды рушым...

# Міжнародны дзень

**21 лютага ў свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. Ён быў абвешчаны 30-й сесіі ЮНЕСКА па прапанове Бангладэш у 1999 годзе. Пачаў адзначацца міжнароднай супольнасцю з 2000 года. 21 лютага 1952 года, адстойваючы права вучыцца на роднай мове, там загінулі пяць студэнтаў.**

## Чужая сярод сваіх

Вольга ХВОІН

**Вестку з Мінадукацыі пра тое, што ў школах будуць выкладаць роўную колькасць гадзін рускай і беларускай моваў, частка нашага грамадства ўспрыняла як рэдкае пазітыўнае рашэнне чыноўнікаў. Але ж ва ўсім гэтым праглядаецца суцэльны сумны парадокс: беларускамоўныя грамадзяне Беларусі сталі гасцямі ў сваёй краіне.**

Нагадаем, з наступнага навучальнага года чакаецца, што, «пачынаючы з другога класа, незалежна ад мовы навучання, будзе выдзелена аднолькавая колькасць гадзін на вывучэнне рускай і беларускай моваў і літаратуры». Пра гэта паведаміла галоўны спецыяліст упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Ірына Булаўкіна. Праз год пасля гэтага такая практыка будзе прымяняцца ў другім-трэцім класах, праз два гады — у другім, трэцім і чацвёртым класах і г.д. да адзінаццатага класа. Мяркуецца, што цалкам пераход да аднолькавай колькасці гадзін рускай і беларускай моваў у школах завершыцца ў 2025–2026 навучальным годзе.

Для чалавека, які ў 1990-я гады атрымліваў сярэднюю адукацыю па-беларуску, а потым вучыўся і месцамі перавучваўся па-руску, мне не зразумела, чаму ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь наогул паўстае пытанне мовы выкладання?

У 1994–1995 навучальных гадах прыкладна 75% першакласнікаў пайшлі ў класы з беларускай мовай навучання. Каля 40% ад агульнай колькасці школьнікаў вучыліся па-беларуску. Пасля рэферэндуму 1995 года, пасля якога рускай мове быў абяцаны «такі ж статус», як і беларускай, руская мова імкліва пачала заваёўваць сабе прастору.

І вось ужо ў 2012–2013 навучальным годзе 83% школьнікаў атрымлівалі адукацыю на рускай мове, і толькі 17% (пераважна ў сельскай мясцовасці) — на беларускай.

Паводле інфармацыі Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у вышэйшых навучальных установах Беларусі на рускай і беларускай мове, хоць гэта мог быць адзін прадмет з усяго навучальнага цыкла, у 2014/2015 гадах навучаліся больш за 149 тысяч студэнтаў — гэта 41%, на рускай мове — каля 212 тысяч — гэта 58%.

Цалкам на беларускай мове навучаліся 300 студэнтаў — гэта 0,1% ад агульнай колькасці, у 2013/2014 гадах іх было 600, а ў 2012/2013 гадах — 700, што складала 0,2 %.




У дашкольных установах адукацыі на беларускай мове ў 2014/2015 гадах выхоўваліся 43 тысячы дзяцей (10%). На рускай мове — амаль 368 тысяч дзяцей, ці 90%.

У 1989 годзе беларускі мову роднай назвалі 65,6% насельніцтва краіны, пасля некалькіх гадоў незалежнасці ў 1999-м — ужо 73,7%, а падчас перапісу 2009 года — 53% рэспандэнтаў.

Беларуская мова паступова знікла з чыноўніцкіх прамоваў, бланкаў справаводства, тэлебачання, страціла ўтылітарную функцыю. Усе Кодэксы ў Беларусі прынятыя на рускай мове — адсутнасць заканатворчасці на беларускай мове з'яўляецца непераадольнай перашкодай для абароны і адстойвання сваіх інтарэсаў беларускамоўнымі грамадзянамі ў судзе і іншых дзяржаўных органах.

Беларускай мове адвялі эстэтычную ролю, зрабілі мовай пэўнага сегменту культуры. Так, можна пагладзець на гэта з пазітыўнага боку, маўляў, беларуская — цяпер мова эліты, белай косткі нацыі. Але такое

# Гэта я — беларускамоўны...

## Альбо чатыры гісторыі пра беларускую мову

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Сустрэць беларускамоўнага філолага альбо актора — цяпер не дзіва. А ці даводзілася вам калі-небудзь размаўляць з беларускамоўным будаўніком, лекарам альбо, да прыкладу, бразільцам? Перапіс беларускамоўных людзей, арганізаваны папулярнымі курсамі беларускай мовы «Мова нанова», у якім ужо прынялі ўдзел больш за дзве тысячы чалавек, засведчыў, што сярод аматараў беларушчыны багата людзей самых розных прафесій і нацыянальнасцяў. Мы вырашылі час ад часу знаёміць з імі нашых чытачоў.**

### Максім Умецкі, будаўнік, Барысаў

— Цікавіцца нашай культурай, гісторыяй і музыкай я пачаў даўно, але на роднай мове не размаўляў. Аднойчы мы гутарылі з бацькам на тэму знішчэння нашай культуры і мовы, была доўгая складаная размова, мы спрачаліся, але ўрэшце паразумеліся. І вось пасля нашай гутаркі я падумаў: «Я сам кажу пра мову, пра тое, што людзі не размаўляюць на ёй, не паважаюць яе, а чым я лепшы?» Гэтае пытанне турбавала мяне, пакуль не прыехаў у Мінск (тут я цяпер працую і жыву). Я аблазіў увесь інтэрнэт і знайшоў курсы беларускай мовы (тады гэта былі курсы «Мова ці кава», пасля — «Мова нанова») — цяпер я ведаю шмат чаго цікавага і завёў новых сяброў.




У штодзённым жыцці я карыстаюся беларускай мовай недзе на 60 працэнтаў. На жаль, на працы пакуль не перайшоў — гэта цяжка для мяне, але я імкнуся. Люблю размаўляць па-беларуску з тымі, хто не паважае мову (я маю на ўвазе нашых, беларусаў, добра, што з такімі сутыкаюся няшмат), ад гэтага яны злуюцца яшчэ больш, а мне становіцца спакайней. У маім асяроддзі да беларускай мовы ўсе ставяцца добра, калі спрабуеш размаўляць у крамах ці цырульнях, проста на вуліцы, людзі не пужаюцца, а часта спрабуюць гутарыць з табою. Ім кажаш: «Дайце, калі ласачка, вось гэта...», а яны адказваюць з усмешкай і па-беларуску, ад гэтага становіцца цяплей.

### Уладзімір Пруднікаў, лекар, Гродна




— Я нарадзіўся ў Гродна, роднай моваю карыстаюся яшчэ з маленства — усё гэта дзякуючы дзеду і бабулі. Беларуская мова, хоць і з паланізмамі, была для іх асноўнай паўсядзённай, рускай амаль не карысталіся. Школьныя гады, асабліва на пачатку 90-х, сталі добрай падтрымкаю, з'явіліся падручнікі і шмат беларускамоўных выданняў. Як пасталеў, мову не кінуў, чытаю літаратурныя творы і пераважна беларускамоўную перыёдыку. Сябры таксама дапамагаюць стварыць моўнае асяроддзе. Раней, калі працаваў у Бераставіцкім шпіталі, з задавальненнем размаўляў з пацыентамі — вясковымі старымі. Ім было прыемна, з іх боку адчуваўся большы давер да мяне як да хірурга...

Кур'ёзнымі былі затрыманні міліцыянтамі ў 2006 годзе на Лідскім вакзале за тое, што размаўляў па-беларуску па мабільным тэлефоне — затрымлівалі ажно 7 разоў! Дзяжурны афіцэр мяне адпускаў з прабачэннямі, таксама па-беларуску. Нядаўна мяне спыніў ДАІшнік, прагледзеў дакументы — усё добра. Пасля пытае: «А по-русски говорить можете?» Я кажу, маўляў, а што, беларускай ужо пад забаронай? Ён сумеўся: «Не-не, что вы» і, напружыўшы памяць, пазычыў: «Шчаслівай дарогі, спадар!»

### Алена і Павал Спірыдоны (кіраўніца і спецыяліст аддзелу продажаў), Мінск

— Я па адукацыі — настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Вучыла мову ва ўніверсітэце, але ў жыцці размаўляла па-руску. З роднай мовай эксперыментавала перыядычна,

# роднай мовы

сегментаванне істотна звузіла месцы выкарыстання і кола носьбітаў. Культура, ды яшчэ і па-беларуску, — далёка не першая патрэба нашага чалавека.

І атрымалася так, што мова тытульнай нацыі цяпер не ёсць зручнай і з маральнага боку, бо яе носьбіт аўтаматычна становіцца аб'ектам пільнай увагі. Калі вы — беларускамоўны чалавек і жывяце ў горадзе, чакайце цікаўных позіркаў, пытанняў: «А вы всегда говорите по-беларусски?», «А дома тоже?». Будзем шчырыя, нават маўкліва скіраваныя ў спіну позіркі чаргі пасля слоў «калі ласка» не дадаюць камфорту. Хіба што чалавек мае асаблівую цвёрдасць характару і глыбокія перакананні ў слушнасці свайго выбару.

У сеціве, нярэдкія адкрыта негатыўныя ацэнкі падчас абмеркавання моўных пытанняў. Абавязкова знойдзецца пара-тройка ярых праціўнікаў беларускай мовы, якія апелююць акурат да абсалютнай непрыдатнасці мовы ў штодзённым жыцці — прывітанне ўладам, якія выціснулі беларускую мову са справаводства і сферы публічных выступаў, зрабілі яе неабавязковым атрыбутам для жыхара дзяржавы, што дазваляе людзям культываваць і без сораму дэманстраваць сваё грэблівае стаўленне. Хаця звычайна няведаннем чаго б тое ні было людзі не хваляцца, быццам дасягненнем.

Вось, да прыкладу, выказванне з форума, у якім канцэнтрат падобнага стаўлення да ўсё яшчэ дзяржаўнай мовы (арфаграфія, стылістыка аўтара захаваная): *«Ну почему Вы считаете что у нас зажимают бел.яз? Остановки на белорусском, информация в метро -так же, школы имеются, еще и каналы белорусские есть (конечно на счет этого могу ошибаться, но кажется что мелькали где-то). Какую еще пропаганду надо? Заставить всех принудительно балакать на белорусском под страхом расстрела что ли? Родной язык тот, на котором ты думаешь!!!! Для меня однозначно родной — русский-он красивый, богатый, мелодичный, а вот бел. яз с его колхозными диалектами как то не трогает, не воспринимается».*

Такой ацэнкі мовы наша грамадства ў прынцыпе заслужыла сваім грэблівым стаўленнем, маўклівай згодай з дыскрымінацыяй, намаганнямі, як хутчэй адрачыся ад «і звонкага «дзе», і густога «чаго».




Паводле ацэнак ЮНЕСКА, цяпер беларуская мова належыць да той групы моваў, якім пагражае знікненне. І рэсурсам, медыя, якія трымаюцца нацыянальнай пазіцыі, каб падкрэсліць жывучасць мовы, даводзіцца акцэнтаваць увагу на такіх простых з'явах, як выказванні на беларускай мове публічных асобаў, байка-майка з Пагоняй ці арнаментам становіцца інфармацыйнай нагодаю. Збаёданыя 20 гадоў прымушаюць таптацца на месцы — гатовы сюжэт на тэму, як у нікуды растраціць час. Замест татальнага перакладу на беларускую мову літаратуры і кіно, стварэння беларускамоўнага асяроддзя мы працягваем радавацца кожнаму асобнаму выпадку такой добраахвотніцкай працы, адваёўваць у садках ды школах права вучыцца па-беларуску, а яшчэ з замілаваннем разглядаць вітрыны ды афішы ва Украіне ці Літве.

Але, хіба, генетычная моўная памяць не адпускае беларусаў. Моўныя курсы з аншлагам крочаць па краіне, за мяжой беларусы не лянуюцца старанна тлумачаць, што яны не «Раша», а Беларусь, бізнесоўцы бачаць у мове патэнцыял і магчымасці для прыцягнення ўвагі патэнцыйных кліента, фраза «беларускамоўным — зніжкі» вылучае з агульнай масы «сваіх», і ў размовах «за мову» праўдай ёсць аргумент, што сучасная супольнасць беларускамоўных — людзі, знаёмствам з якімі можна ганарыцца.



### Нетыповы білінгвізм

У сям'і Касі Васільевай дачка Кіра гадуецца ва ўмовах білінгвізму. Дзяўчынцы два гады, і пакуль яна засвойвае беларускую і англійскую мовы.

— Кіра падрасла, і паўстала пытанне, што мультфільмаў па-беларуску не так і шмат. Мы пачалі ўключаць мультфільмы толькі на англійскай мове. Кіра ўжо някепска гаворыць па-беларуску, ведае нямала слоў па-англійску. Заўважу, што ў яе вельмі добрае англійскае вымаўленне, бо мультфільмы ж звычайна агучваюць носьбіты мовы. Я спадзяюся, што пасля трох гадоў Кіра пойдзе ў беларускамоўны садок — у нас ёсць такі на раёне. Калі не будзе месцаў, то, відаць, будзем шукаць беларускамоўную няньку. Мы хочам, каб дачка добра засвоіла найперш беларускую мову. І ўжо недзе ў пяць гадоў будзем уводзіць рускую.




больш для цікавасці, каб паглядзець на рэакцыю наваколля, або каб паставіць людзей у няёмкае становішча, напрыклад, прадавачак у кіёсках. У студэнцтве для нас гэта было прышпільна. Потым выкладала мову і літаратуру ў школе. Тады пазнаёмілася з будучым мужам Пашам, маладым аграномам — абсалютна рускамоўным чалавекам.

Паша нарадзіўся ў Літве. Да шасці гадоў рос там, прыязджаючы на лета ў Беларусь. Бацькі размаўлялі з ім па-руску, а ў садку — па-літоўску. Пасля пераезду ў Беларусь ужо другакласнік Паша беларускую мову так і не адолеў. Калі мы знаёміліся з бацькамі майго будучага мужа, я вырашыла для прыгажосці размаўляць на мове. Памятаю, як яны былі ўражаныя. Але ў жыцці я таді гаварыла на трасянцы (мы жылі ў вёсцы), або па-руску з Пашам.

Прыблізна праз два гады сумеснага жыцця мы пераехалі жыць у Мінск і аднойчы па маёй прапанове наведалі курсы «Мова нанова». Як цяпер памятаю — выступаў прадстаўнік Velcom. Статны такі мужчына ў прыгожым гарнітуры расказваў, якімі этапамі ён ішоў да мовы ў сваім жыцці. З гэтага моманту Паша дома і ў гасцях размаўляе па-беларуску. Я ганаруся яго сілай духа. Цікава было назіраць за першай рэакцыяй сяброў і родных. Паша проста перайшоў з імі на мову, не важна, па тэлефоне або пры сустрэчы. Людзі ніякавелі, а потым ціха звярталіся да мяне: «Чаму Паша размаўляе так? Што здарылася?» Мы смела адказвалі, што гэта наша мова і нічога тут дзіўнага ўвогуле не бачым. Пашу было складана, але ён пачаў чытаць Караткевіча, Быкава, Мележа. Мы пачалі наведваць беларускамоўныя мерапрыемствы.

Прызнаюся, па-беларуску я размаўляю толькі дома з Пашам, а таксама ў кампаніях, дзе мы разам з мужам знаходзімся. Пакуль што мой мозг аўтаматычна пераключаецца на мову таго чалавека, з якім я размаўляю: руская або трасянка. Паша па-беларуску размаўляе паўсюль, акрамя працы — там ёсць свае нюансы.

Нядаўна з намі здарыўся цікавы выпадак: мы заехалі на запраўку «Беларусьнафта» набыць хот-дог. Сярод іншых там быў звычайны (на цэтліку пазначана — «обычный») хот-дог. Я так і папрасіла прадавачку: «Дайце звычайны хот-дог». Спачатку цішыня ў адказ, потым яна пайшла да вітрыны шукаць названую страву. Шаптала нешта пад нос, вадзіла пальцам па шкле. Потым вярнулася і паглядзела на мяне запытальна: паўтарыце замову, калі ласка. Я зноўку папрасіла звычайны хот-дог. Прадавачка ўжо пачала гаварыць, што такога няма, калі нехта ў чарзе ёй патлумачыў, што звычайны — гэта «обычный». Пакуль мне яго гатавалі, хлопец, што стаяў за мной, выпусціў ключы. Я падняла, а ў адказ пачула сарамлівае «дзякуй». Вось гэта было здарова!

### Патэрсан Франка, Бразілія, штат Баія

— Узімку 2010 года мы з Воляй (тады была маёй дзяўчынай, а цяпер — жонка) шпацыравалі па Нясвіжы... Мы ўжо больш за паўгода жылі разам, але я не хацеў вучыць беларускую, бо стаміўся вучыць мовы (я ўжо валодаў шасцю), да таго ж у нас ужо былі тры агульныя мовы — партугальская, руская ды англійская. Дык вось, гулялі мы з ёй, я быў п'яны, калі шчыра, і тут да мяне дайшло: чаму ж я не вучу беларускую? Я ў Беларусі, мая дзяўчына — беларуска... Цяпер нават смешна думаць, што калісьці мы з ёй размаўлялі па-руску.

Штодня мы з жонкаю размаўляем па-беларуску, асабліва калі мы не дома, каб ніхто нас не разумеў. Такім чынам, беларуская мова з'яўляецца тут нашай сакрэтнай мовай. Таксама штодня чытаю па-беларуску інтэрнэт ды кнігі, бо я пішу дысертацыю пра фільм «Жыве Беларусь». Ва ўсіх краінах, дзе бываю, я дзякую на мясцовай мове, і гэтаму заўжды радыя, але ў Беларусі ў адказ на мяне крыва глядзелі прадавачкі. Спачатку я думаў, што гэта яны проста нядобра ставяцца да беларускай мовы, але цяпер мне здаецца, што гэта ў іх звычайныя твары такія (у параўнанні з бразільцамі беларускія людзі ў большасці неверагодна халодныя).

Бабуля Вольгі размаўляе на трасянцы. Мы думалі, што для яе не вельмі зразумела, што руская, што беларуская. Але як пачаў я на беларускай з ёй размаўляць — тут яна адразу кажа: «Ой! Ён па-нашаму гаворыць!»

Спачатку я не цяміў розніцы паміж гукамі «г» ці «х», таму бывала, напрыклад, што я казаў «я галодны», але Воля разумела, як «я халодны», але праз знаёмага японца я вызначыў розніцу, хоць ён увогуле не размаўляе па-беларуску. Ён аднойчы мне сказаў (на партугальскай): «Я паеду ў Хые!» Я: «Што?» Ён: «У Хыё-дэ-Жанэйра!». Толькі тады я зразумеў, што беларускае «г» гучыць так сама, як нашая «R» (у пачатку ці ў канцы слова), а «Х» — гэта «х», як у рускай. Вось так японец навучыў бразільца беларускаму гуку!

Спадзяюся, што гэта калі-небудзь таксама дойдзе да ўсіх беларусаў (пажадана без алкаголю), якія звычайна не карыстаюцца беларускай мовай. Я не беларус, я не жыву ў Беларусі, але размаўляю па-беларуску. Што ж вы, беларусы, жывіце ў Беларусі ды не размаўляеце на беларускай мове?



19 лютага 2016 | № 7 (472) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Вярнуць Бамбей на мапу

Уплывовае брытанскае ліберальнае выданне «The Independent» пачало кампанію за вяртанне індыйскаму гораду Мумбаі назву Бамбей, якую горад насіў да 1995 года. Падставай для кампаніі стала тое, што горад змяніў назву праз патрабаванні радыкальных індускіх нацыяналістаў, якія прасоўвалі тады тэзіс пра тое, што назва Бамбей — перажытак каланіяльных часоў. Як піша выданне, называць горад Мумбаі — працаваць на індускіх нацыяналістаў. Праўда, кампанія ча-мусьці не тычыцца назваў іншых гарадоў, якія ў 1990-я гады таксама змянілі назву пад ціскам індускіх нацыяналістаў. Так, Калькута з тых часоў называецца Колката. Сама ж кампанія, якую, дарэчы, падтрымалі шматлікія брытанскія журналісты індускага паходжання, будзе заключацца ў тым, што Мумбаі ў іх публікацыях будзе прынцыпова называцца па-старому. Увогуле, назва «Мумбаі» паходзіць ад Mumbadevi — адна з багіняў у індуізме, якая з'яўляецца патронам гораду. Што тычыцца слова «Бамбей», то гэта перароблененая партугальская назва гораду, які яны кантралявалі да прыходу брытанцаў. Пры партугальцах горад называўся Bom Bahia (Добрая бухта).

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Надзею Саўчанка ў прэзідэнты!

Не паспелі пару тыдняў таму з'явіцца чуткі пра магчымы выхад Надзеі Саўчанка на волю, як на гэта адрэагавалі палітычныя букмекеры. Нагадаем, што Саўчанка — украінская лётчыца, якую судзяць у Расіі за быццам забойства расійскіх журналістаў на Данбасе. З улікам таго, што Надзею абвінавацію у адным з інтэрв'ю сам Пуцін, няма сумневаў, што ўкраінку чакае жорсткі прысуд. Аднак не так даўно адзін з адвакатаў Надзеі паведаміў, што распрацоўваецца схема абмену яго кліенткі на расійскіх афіцэраў, якія трапілі ва ўкраінскі палон. Папярэдняя дата абмену — сакавік гэтага года. Аднак ужо зараз, не чакаючы абмену, шэраг украінскіх журналістаў змясцілі ў сацыяльных сетках заклікі высунуць Саўчанка ў прэзідэнты. «Не адзін я думаю, што вызваленне Надзеі Саўчанка можа прывесці да значных змен у сацыяльным жыцці Украіны. Не адзін я думаю, што вяртанне Надзеі ва Украіну паставіць знак пытання Пятру Парашэнку пра яго прэзідэнцтва», — піша адзін прыхільнікаў праекту. Таксама прыхільнікі Саўчанка запусцілі чуткі, паводле якіх цяперашні прэзідэнт, баючыся прыходу Саўчанка ў вялікую палітыку, спецыяльна не фарсіруе працэс абмену.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Перавесці мову на лацінку

Прадстаўнікі казахскага ўраду паведамілі, што ў нетрах Кабміну прыняты дакумент — дарожная карта пра пераклад казахскай мовы на лацінку. Дакладнай інфармацыі пра план і, галоўнае, пра графік яго выканання пакуль няма, аднак адзін з міністраў катэгарычна заявіў: адваротнага шляху ўжо не будзе. З іншага боку, па яго ж словах, штучна паскараць працэс урад не збіраецца, паколькі для гэтага няма адпаведных умоваў. Адна з праблемаў звязаная з тым, што тыповая лацінская клавіятура не адпавядае асаблівасцям казахскага лацінскага алфавіту. Гэта будзе не першая рэформа алфавіту ў краіне. Казахі, як і ўсе цюркскія народы, з'яўляюцца спадкаемцамі руніцкай пісьменнасці, якая існавала ў VIII–X стагоддзях. Затым пад мусульманскім уплывам на тэрыторыі Казахстана сталі карыстацца арабскім пісьмом. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Казахстане ў перыяд паміж 1929 і 1940 гадамі выкарыстоўвалася лацінская графіка. А пазней — пануе кірыліца, хаця заклікі да пераходу на лацінку гучаць увесь час пасля атрымання незалежнасці.

**Паводле казахстанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Ці быў Кёльн фэйкам?

Ульрых Брэмер, пракурор Кёльна, даў інтэрв'ю выданню «Die Welt», якое разбурае шматлікія міфы наконт падзей у навагоднюю ноч вакол кёльнскага вакзалу. Нагадаем, што тады шматлікія жанчыны сталі ахвярамі сексуальнага гвалту. Колькасць ахвяр ідзе на некалькі сотняў. Адказнасць за тыя злачынствы частка грамадства ўсклала на прадстаўнікоў апошняй хвалі імігрантаў. Аднак, паводле інтэрв'ю пракурора, гэта была памылковая ацэнка: толькі трое з 58 асобаў, якіх абвінавачваюць у дамаганнях, прыехалі з краін, дзе зараз ідзе вайна (Ірак і Сірыя). Праўда, большасць з іншых падазраваных (52 чалавекі), не з'яўляюцца і этнічнымі немцамі, але яны прыехалі ў Германію дастаткова даўно. Па справе праходзяць таксама тры немцы. Пракурор таксама сцвярджае, што галоўным чынам у тую ноч мелі месца банальныя спробы крадзяжу, а не сексуальныя дамаганні. Застаецца дадаць, што заявы Брэмера вельмі важныя з улікам таго, што 13 сакавіка пройдуць выбары ў тры зямельныя парламенты, а тэма іміграцыі, і асобна Кёльну, застаецца адной з самых важных у лексіконе кандыдатаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Пасталелая субкультура

Алег НОВІКАЎ

**По ўсім свеце, і перш за ўсё ў Вялікабрытаніі, адзначаюць 40-ю гадавіну нараджэння субкультуры панк (punk).**




На самай справе, 40 гадоў — дата вельмі ўмоўная, як і версія пра тое, што punk узнік менавіта на Туманным Альбіёне. Брытанская манаполія на punk, напрыклад, актыўна аспрэчваецца амерыканцамі, на думку якіх нешта падобнае (прымітыўная лірыка, музыка, агрэсіўны вакал, нігілістычныя тэксты, хуткі рытм) было ў Нью-Ёрку яшчэ на пачатку 1970-х гадоў. Ёсць нават версія, што такога кшталту музыку палюбілі раней за Брытанію і ЗША ў Перу.

Аднак у брытанцаў ёсць свой забойчы аргумент. Так ці інакш, слова «punk», якое раней ужывалася ў значэннях «бруд», «адкіды», стала ўжывацца як назва асобнай субкультуры менавіта ў Лондане. Назва новага стылю пачала пранікаць у грамадскі лексікон пасля таго, як 12 лютага 1976 года гурт «Sex Pistols» даў канцэрт у адным з вядучых лонданскіх клубаў «Marquee».

Пратэстны і дзёрзкі стыль гурта хутка зацікавіў публіку і прэсу, у чым, безумоўна, ёсць заслуга яе імпрэсарыа Малкальма МакЛарэна і дызайнеркі Вівьен Вествуд. Яны бачылі праект у комплексе — разам з ідэалогіяй і знешнім моцным эстэтычным кодам. У ідэйную аснову стылю punk быў пакладзены прымітыўны анархізм, які фактычна быў абмежаваны наборам дэвізаў: «Будучыні няма», «Панк не памёр»... Што тычыцца эстэтыкі, то Вествуд сыходзіла з ідэі пра тое, што punk — антымода, вульгарнасць і свабода ва ўсіх яе праявах, у тым ліку і ў вопратцы. Адсюль пайшлі каляровы іракез на галаве, пірсінг, тату, ланцугі, майкі са знакамі анархіі і крыклівымі лозунгамі.

Аднак, безумоўна, галоўным прарывам піянеры панка павінны быць удзячнымі каралеве Елізавеце. У разгар святкавання 25-й гадавіны яе каранацыі ўлетку 1977-га ў эфіры з'явіўся сінгл «God Save the Queen», у якім каралева называлася «крэцінкай», а пануючы ў краіне лад — «фашысцкі рэжым».

Песню адразу забаранілі, што, аднак, не перашкодзіла буйным продажам сінглаў і, як следства, выбуху папулярнасці новага стылю. Як прызнавала кансерватыўная газета «The Telegraph», на пачатку 1980-х гадоў стыль punk стаў амаль уніформай маладых людзей у Вялікабрытаніі, а сама мода на punk пайшла гуляць па свеце.

1980-я гады сталі залатой эпохай накірунку. Свой унёсак у рост папулярнасці punk зрабіла і Маргарэт Тэтчэр. Антысацыяльныя рэформы Жалезнай Лэдзі ўзнялі градус напружанасці ў грамадстве, радыкалізавалі культурны свет, выкінулі на вуліцу мноства маладых людзей, якія сублімiравалі нянавісць да Тэтчэр у музычныя творы. Імкліва фармаваліся новыя студыі гуказапісу, паўстала цэлая сетка самвыдату.

Яшчэ больш неверагодны лёс чакаў punk ва Усходняй Еўропе і ў СССР. Нягледзячы на свае левыя, анархісцкія карані, punk адразу стаў тут часткай антыкамуністычнага руху. Хутчэй за ўсё, з'ява была выкліканая тым, што забабоны панкаў абсалютна не адпавядалі кодэксу будаўніка камунізму, які прапаноўваў кашу са спажывецтва і палітычнай лаяльнасці. Найбольш моцна палітызаваная была сцэна панкаў у Польшчы, дзе песні некаторых панк-гуртоў нават выконваліся на маніфестацыях «Салідарнасці». Штогадовы фестываль у Ярочыне, дзе тон задавалі панкі, у грамадстве ўвогуле ўспрымаўся як вольная ад камунізму тэрыторыя. Магчыма, часткова з гэтай прычыны ў палякаў не было комплексаў галасаваць за былога вакаліста аднаго з рок-гуртоў 1980-х гадоў Паўла Кукіза, які атрымаў летась на прэзідэнцкіх выбарах 15 працэнтаў галасоў.

У СССР стыль punk не быў настолькі шырокі, як у Польшчы, праз розныя фактары, у тым ліку з-за дэфіцыту інфармацыі. Найбольш папулярнай крыніцай інфармацыі пра панкаў доўгі час былі блокі ў выпусках праграмы «Міжнародная панарама», дзе людзі з незвычайнымі валасамі і пірсінгам выстаўляліся як неафашысты. Аднак уплыў punk на творчасць таго ж Віктара Цоя і іншых моладзевых куміраў часоў Перабудовы відавочны. У любым выпадку, нянавісць да каштоўнасцяў сістэмы — адзін з пастулатаў punk, стоадсоткава адпавядаў настроям маладых людзей 1980-х гадоў.

Перажыўшы некалькі ўздымаў, даўшы штуршок для развіцця новых накірункаў, сам стыль прыкладна з канца 1990-х гадоў пачаў губляць рэвалюцыйны запал і камерцыялізавацца. Як канстатуе прэса, сёння punk — гэта культурны прадукт, які цалкам стаў часткай ненавіснай яму калісьці сістэмы шоў-бізнесу. Дайшло да таго, што «God Save the Queen» быў выкананы ветэранамі «Sex Pistols» на нейкім канцэрце ў прысутнасці адной з прынцэс, і ўсе пры гэтым засталіся задаволены. У пэўным сэнсе ілюстрацыяй згаданай метамарфозы ёсць і цяперашні 40-гадовы юбілей. Праграма святкаванняў у Лондане напоўненая імпрэзамі, накшталт Чэрвеньскага фестывалю альтэрнатыўнай вопраткі ад самых вядомых сусветных брэндаў.

З іншага боку, магчыма, некралогі для punk пішуцца сыходзячы з заходніх рэаліяў. На перыферыі punk дасюль застаецца моцным сродкам культурнай барацьбы за перамены. Можна ўзгадаць і скандал, які выклікаў перформанс панк-феміністак з гурта «Pussy Riot» «Багародзіца, Пуціна прагані!». А нядаўна інданезійская кансерватыўная прэса занепакоілася ростам у краіне папулярнасці панкаў, якія пагарджаюць ісламскімі традыцыямі.



Фота www.trendnerd.wordpress.com

# Дыпламатыя Берні Сандэрса



Фота www.redalertpolitics.com

**Добрыя вынікі на старце праймерыз яшчэ не гарантуюць Берні Сандэрсу перамогі ў дуэлі з Хілары Клінтан. Аднак нават у выпадку фіяска погляды палітыка, у тым ліку на знешнюю палітыку, будуць улічвацца кожным, хто б ні прыйшоў у Белы дом.**

*Алег НОВІКАЎ*

Што тычыцца замежнай палітыкі, то гэта яўна не канёк дэмакратычнага сацыяліста, якім лічыць сябе сам Сандэрс. Калі паслухаць яго выступы, лёгка падлічыць, што тэма замежнай палітыкі ў сяродні займае 15–20 працэнтаў ад агульнага часу прамовы. У некаторым сэнсе гэта лагічна, бо кумір Сандэрса — Франклін Рузвельт, які, як вядома, да апошняга трымаўся лініі на знешнепалітычны ізаляцыянізм і няўдзел краіны ў Другой сусветнай вайне.

На цяперашні час аналітычная і публічная думкі падзяліліся наконт таго, што чакае Дзярждэпартамент (у ЗША гэты орган выконвае функцыі МЗС) у выпадку перамогі Сандэрса на прэзідэнцкіх выбарах.

Пачаць можна з вобразу Сандэрса як ястраба, які, маўляў, удала камуфлюецца пад голуба. Аматары такой версіі звяртаюць увагу на тое, што Сандэрс належыць да клінтанаўскай генерацыі дэмакратаў. Калі гэтыя палітыкі ў 1990-я прыйшлі да ўлады, свет стаў сведкам рэзкай актывізацыі знешняй палітыкі ЗША. Пры гэтым Біл Клінтан і яго каманда не мелі комплексаў наконт пасылкі ў зоны канфліктаў самалётаў і жаўнераў (Самалі, Косава, Боснія). Сандэрс асабліва не пратэставаў супраць тых аперацый. У 2011 годзе ён не крытыкаваў увод войскаў NATO ў Лівію. У мінулым годзе ўвогуле падтрымаў авіяцыйныя налёты ЗША на пазіцыі ісламістаў у Сірыі і Іраку. Можна таксама ўзгадаць, як Берні Сандэрс выступаў супраць спробаў Чавеса сабраць антыамерыканскі рэгіянальны блок за кошт левых рэжымаў Лацінскай Амерыкі.

Версія пра Сандэрса-ястраба характэрная для прадстаўнікоў экспертнай супольнасці, якія стала займаюцца маніторынгам учынкаў палітыкаў. Што тычыцца простых людзей, то яны, як правіла, бачаць у Сандэрсе нейкага пацыфіста-ідэаліста. Сапраўды, Сандэрс кідаецца вельмі радыкальнымі прапановамі. Так, ён прапануе перафарматаваць NATO, уключыўшы туды Маскву. Рашэнне праблемы Ісламскай Дзяржавы ён разглядае выключна праз прызму шырокай кааліцыі, куды акрамя Захаду ўвойдуць Расія і Іран. Нягледзячы на яўрэйскае паходжанне Сандэрса, цяперашні кансерватыўны ізраільскі ўрад напружваецца, пачуўшы яго імя — кандыдат-дэмакрат выступае за стварэнне і развіццё Палесцінскай дзяржавы. Увогуле, Сандэрс прапануе пакласці ў аснову дыпламатыі ЗША прынцып міжнародных кааліцый. «У адміністрацыі Сандэрса не будзе адзінага ключа для рашэння міжнародных канфліктаў, мы не можам працягваць рабіць гэта ў адзіночку; мы павінны працаваць у кааліцыі», — сказаў Берні Сандэрс падчас чарговых дэбатаў.

> 80
>
> **працэнтаў моладзі і 55 працэнтаў жанчын у Дэмакратычнай партыі ЗША падтрымліваюць Берні Сандэрса. Таму Хілары Клінтан вымушана будзе гэта ўлічваць, калі пераможа на праймерыз**

Цікава, што правая прэса крытыкуе палітыка не за пацыфізм, а за папулізм. Сапраўды, падчас ток-шоў Сандэрс прапануе падыходзіць да складаных праблемаў дастаткова проста. Напрыклад, на пытанне пра тое, што амерыканскім жаўнерам далей рабіць у Афганістане, той абяцае вывесці іх адтуль у першы ж дзень сваёй прэзідэнцкай кадэнцыі.

Калі верыць кансерватыўным каментатарам, у Сандэрса дастаткова хаатычныя погляды адносна таго, як павінен выглядаць будучы знешнепалітычны курс Злучаных Штатаў. Адно ён ведае цудоўна — просты амерыканец «наеўся» замежных авантураў, а тым больш вайсковых. Пасля 2001-га ЗША ўлезлі ў тры канфлікты — Ірак, Лівія і Афганістан. У выніку ніводная з інтэрвенцый не дасягнула пастаўленых задач. Наадварот, выклікала толькі эскалацыю ў рэгіёнах. На гэтай траўме ў калектыўнай свядомасці амерыканцаў Сандэрс, маўляў, і гуляе.

Сандэрс не задаволены пражэктамі пашырэння Паўночна-Атлантычнага блоку на ўсход, у тым ліку гэты тычыцца і перспектыў сяброўства Украіны. Па словах палітыка, гэта выклікае геапалітычныя канфлікты і дорага каштуе амерыканскім падаткаплацельшчыкам. З іншага боку, дэмакратычны сацыяліст выступае за ўзмацненне эканамічных санкцый супраць Масквы. «Каб спыніць расійскую агрэсію, мы павінны замарозіць расійскія дзяржаўныя актывы па ўсім свеце, а таксама заахвочваць міжнародныя карпарацыі адмаўляцца ад вялізных інвестыцый у Расію, каб аслабіць ваяўнічыя фракцыі ў эліце краіны», — лічыць Берні Сандэрс.

Такім чынам, прагназаваць, як будзе выглядаць знешняя палітыка ЗША ў выпадку перамогі Сандэрса, шматлікія эксперты не раяць. Тут дарэчы будзе нагадаць, што Буш-малодшы прарваўся ў Белы дом шмат у чым дзякуючы крытыцы экспансіянізму клінтанаўскай адміністрацыі, абяцаючы ўтрымацца ад інтэрвенцый у замежжа. У што ператварыліся тыя абяцанкі, усім вядома.

Калі ў выпадку выбараў пераможа Хілары Клінтан, то, на думку прэсы, яна будзе вымушаная ўлічваць фактар Сандэрса. Яго папулярнасць сярод партыйнага базісу, перш за ўсё сярод моладзі (80 працэнтаў) і жанчын (55 працэнтаў) не пакідае Хілары іншага варыянту. Магчыма, на практыцы гэта выльецца ў змякчэнне танальнасці амерыканскай дыпламатыі.

Дарэчы, пра Беларусь магчымы кандыдат у прэзідэнты ЗША пакуль нічога не казаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Прэзідэнцкая партыя «Нур Атан» выйграла пазачарговыя, прызначаныя на 20 сакавіка, парламенцкія выбары загадзя. Гэта вынікае з аналізу колькасці кандыдатаў, якія падалі ў цэнтравыбаркам іншыя партыі, што жадаюць ўдзельнічаць у кампаніі. Атрымліваецца, што ўсе альтэрнатыўныя кіруючай «Нур Атан» партыі вылучылі такую колькасць кандыдатаў, што пры самым аптымістычным сцэнары змогуць атрымаць толькі чвэрць мандатаў. Іншымі словамі, партыя Назарбаева фактычна гарантавала сабе парламенцкую большасць нават да афіцыйнага старту кампаніі. Натуральна, гэта ставіць пытанне пра тое, нашто галасаваць, калі вынік вядомы ўжо зараз. Каб неяк разрадзіць сітуацыю, афіцыёз піша, што такая дыспрапорцыя аб'ектыўна можа сведчыць пра кадравы крызіс у апазіцыйных партыях, пра адсутнасць у іх шэрагах дастатковай колькасці сябраў, здольных прадстаўляць сваю арганізацыю ў парламенце, весці дыскусіі і вырашаць лёс краіны. Магчыма, тут ёсць элемент праўды, калі браць пад увагу маргінальны стан казахскай апазіцыі. Аднак, у прынцыпе, невялікая колькасць апазіцыйных кандыдатаў зразумелая. Апошні раз апазіцыянераў пускалі ў парламент аж у мінулым стагоддзі. Акрамя таго, кожны, хто хоча балатавацца, павінен зрабіць унёсак памерам каля тысячы долараў.

### Мішэль Мартэйі



Гаіцянскі прэзідэнт, які фармальна пакінуў пасаду ў сувязі з заканчэннем тэрміну кадэнцыі, заслугоўвае ўвагі, паколькі нават для арыгінальнай гаіцянскай палітыкі гэта вельмі прыкметны персанаж. Мартэйі прыйшоў у палітыку з эстрады. Раней ён быў папулярным выканаўцам песень, выступаў у начных клубах пад псеўданімам «Sweet Micky», і нават для падтрымання папулярнасці быў не супраць сольных нумароў у жаночых сукенках. Жыццё крута змянілася пасля таго, як у 2010 годзе ў краіне адбыўся жудасны землятрус, а ў Гаіці для падтрымкі нейкага грамадскага парадку і ліквідацыі наступстваў катастрофы прыйшлі часткі ААН. Нехта з кіраўнікоў корпусу ААН паклаў вока на папулярнага артыста і падбіў музыку пайсці ў прэзідэнты. У 2010 годзе той стаў гаіцянскім гарантам, атрымаўшы 60 працэнтаў галасоў. Яго пяцігодка запомнілася карупцыйнымі скандаламі і канфліктам з апазіцыяй. Аднак фінал знаходжання Мартэйі пры ўладзе аказаўся проста феерычным. Ён спрабаваў прасунуць на пасаду наступнага прэзідэнта свайго чалавека. Гэта выклікала ў мінулым снежні такія масавыя пратэсты, што Савет бяспекі ААН прапанаваў адмяніць выбары і абраць часовага — на 120 дзён — прэзідэнта праз парламент. Прычым балатавацца на гэту пасаду можа хто заўгодна. На цяперашні дзень у Гаіці знайшлося 5 ахвочых стаць прэзідэнтамі. Да тэмы агульнанародных выбараў прэзідэнта плануецца вярнуцца толькі напрыканцы красавіка.

### Драган Ковіч



Выконваючы абавязкі старшыні савета прэзідэнтаў Босніі і Герцагавіны перадаў кіраўніцтву Еўрасаюза афіцыйную просьбу пра атрыманне Босніяй і Герцагавінай статусу сябра ЕС. Падзея сенсацыйная. Па-першае, да апошняга дня хадзілі чуткі, што прэзідэнт сербскай абшчыны з-за нацыяналістычных пачуццяў накладзе вета на просьбу пра далучэнне да ЕС, якая, дарэчы, рыхтавалася восем гадоў. Па-другое, як мінімум лідары 14 партый, якія дзейнічаюць у Босніі і Герцагавіне, трапілі не так даўно ў карупцыйны скандал, і ўступленне краю ў ЕС, дзе антыкарупцыйнае заканадаўства вельмі жорсткае, не гарантуе ім бясхмарнае заўтра. Нарэшце, падача заявы адбылася на фоне дэмаршу ўсходнееўрапейскіх краін, якія ўваходзяць у Вышаградскую групу. «Вышаградцы» баяцца, што немцы і аўстрыйцы зачыняць мяжу для мігрантаў, якія застануцца ў краінах Усходняй Еўропы. Чацвёрка краін (Польшча, Венгрыя, Славакія і Чэхія) лічыць, што самай паўднёвай на Балканах краінай ЕС павінна быць Венгрыя. У любым выпадку, канкрэтныя перамовы па дэталях еўраінтэграцыі Босніі і Герцагавіны запланаваныя толькі на наступны год. Прагназуюць, што Брусэль запатрабуе як мінімум рэформы Канстытуцыі, Крымінальнага кодэксу і іншых паправак у дзеючыя ў краіне законы. Аднак на фоне праблемы мігрантаў гэта ўсё падаецца проста дробяззю.

19 лютага 2016 | № 7 (472) Новы Час

# Алесь Адамовіч.

## Няўжо вы ўсё яшчэ дазваляеце фюрэрам дурыць вас?



Сяргей ШАПРАН

**З сотняў беларускіх літаратараў бадай толькі два падвяргаліся ў другой палове XX стагоддзя найбольш мэтанакіраваным і лютым нападкам: Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч.**

Мабыць, і супадзенні таму невыпадковыя — у абодвух канфлікт з уладай пачаўся ў 1966-м: у Быкава — з-за аповесці «Мёртвым не баліць», у Адамовіча — з прычыны адмовы падпісаць ліст супраць літаратараў-«здраднікаў» Даніэля і Сіняўскага. Зноў жа, абодва, хоць і ў розныя часы, але вымушаны былі пакінуць Беларусь. Нарэшце, абодвум гадамі перакрывалі кісларод адны і тыя ж высокія чыноўнікі.

### Як у 1937-м

1966 год. Адамовіч чытае ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце курс лекцый па беларускай літаратуры. Маладому прафесару, абяцаючы жыллё, прапануюць застацца ў Маскве. Аднак хрушчоўская «адліга» паступова змяняецца брэжнеўскімі «замаразкамі». Дзяржаве зноў патрэбныя «ворагі народа». Якраз у гэты час на Захадзе з'яўляюцца паклёпніцкія публікацыі Андрэя Сіняўскага і Юлія Даніэля. І мішэнь знойдзена — фабрыкуецца справа савецкіх літаратараў-«здраднікаў». З ЦК КПСС у Маскоўскі ўніверсітэт накіроўваецца распараджэнне: прафесара павінна выступіць з асуджальным лістом.

Аднак Адамовіча папярэджваюць — у яго ёсць шанец знікнуць ці хоць бы назвацца хворым... Праз гады ён напіша ў сваіх нататках «Путешествие из Минска в Москву и обратно»: «Не пайсці, згадзіцца, што мяне "не знайшлі", — як пасля будзеш адчуваць сябе? Вось мы ўсе папракалі "старых", што яны дазволілі сталінскай бандзе асядлаць краіну, загнаць усіх у Страх, у Паслухмянасць. Аднак не адразу ж гэта пачалося, з нечага пачыналася, і тады яшчэ можна было нешта выправіць, змяніць сваю і нашу будучыню. А ці не такі момант зноў падступае?.. Потым ужо ў нас будуць пытацца, катаваць нашае сумленне: як гэта вы дазволілі?»

...У 1988 годзе Юрый Хашчавацкі і Аркадзь Рудэрман знялі фільм «Встречный иск» (першапачатковая назва — «Алесь Адамович. Наблюдение» — была забаронена), адным з эпізодаў якога быў судовы працэс: былы пракурор Шахаўцоў падаў у суд пазоў на Адамовіча за тое, што той назваў Сталіна злачынцам. «Падчас гэтага суда, — прыгадваў Юрый Хашчавацкі, — Адамовіч сказаў пра адну вельмі істотную рэч, якая стала для мяне як камертонная нота для дырыжора. Ён сказаў, што стары Майсей быў забыўлівы — Гасподзь пакінуў яму 11 запаведзяў, а той запомніў толькі 10. 11-я гучыць так: "Не бойся"».

Адамовіч не баяўся ўжо тады, у 1966-м. Яго прынцып: «Досыць, што да нас жылі, не жывучы». І таму цяпер адкрыта заявіў: «Суда яшчэ не было. Якое ж мы маем права папярэднічаць рашэнню суда?.. Ці не мала з нас аднаго 37-га года?»

Адмовіўшыся падпісаць калектыўны ліст прафесуры Маскоўскага ўніверсітэта, ён вымушаны быў звольніцца. «Трэба тэрмінова з'язджаць, — занатуе ён, — пакуль яны мяне не дацiснулі, найперш псіхалагічна». Тыя падзеі ён успрымаў настолькі сур'ёзна, што нават па начах прачынаўся ад уласных крыкаў: «Нягоднікі!»

У выніку Адамовіч вярнуўся ў Мінск. «Жыццё на два горада», — так ён вызначыў потым уласны лёс, паколькі, маючы патрэбу ў «запасным выхадзе», вымушаны быў жыць то ў Мінску, то ў Маскве.

Аднак афіцыйны Мінск сустрэў холадна — Адамовіч год заставаўся без працы. Яму прагцялы час не дазвалялі вярнуцца ў Інстытут літаратуры АН БССР, паколькі сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Станіслаў Пілатовіч прыстрашыў: «Партыя не выпусціць са сваіх рук літаратурную крытыку, хай Алесь Адамовіч не разлічвае, што аддадзім яму».

Больш за тое, Адамовічу нават хацелі адмовіць у прапісцы, бо першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў заявіў: «Хай там адмываецца, дзе награшыў!», але Адамовіча выратаваў драматург Андрэй Макаёнак.

Канчаткова ж прымірыць Машэрава з думкай, што нязручны літаратар усё ж вярнуўся ў Мінск, здолеў сакратар ЦК КПБ Аляксандр Кузьмін. Але адбылося гэта ўжо праз гады — пасля публікацыі кніг «Карнікі» і «Я з вогненнай вёскі...», якая была напісана Адамовічам у суаўтарстве з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам і якую Святлана Алексіевіч потым назаве геніяльнай кнігай. «Толькі калі сустрэла кнігу "Я з вогненнай вёскі...", раптам зразумела, што менавіта так я і чую свет — праз галасы, — казала Алексіевіч падчас адной з нашых з ёй гутарак. — Я ж вырасла і сфармавалася ў вёсцы. А вёска — гэта найперш галасавая культура, у вёсцы галасы — гэта знаёмы табе свет... Тады ж і адчула, намацала свой жанр».

Аднак што тычыцца яшчэ Машэрава. Калі праз гады, маючы на ўвазе справу Сіняўскага–Даніэля, першы сакратар ледзь не абняў Адамовіча: «Вы былі малады, вядома, маладосць, гарачнасць...», той парыраваў:



Алесь Адамовіч на здымках фільма «Иди и смотри»



Алесь Адамовіч з баявымі сябрамі

«Няўжо, Пётр Міронавіч, вы думаеце, што сёння я падпісаў бы такі ліст? Я і сёння не падпісаў бы».

### Чарговы Іван Іванавіч

Праравць блакаду на «Беларусьфільме» Адамовічу, які ў 1964 годзе скончыў у Маскве Вышэйшыя сцэнарныя курсы, давялося толькі пасля таго, як былі надрукаваныя яго раманы «Война под крышами» і «Сыновья уходят в бой». Аднак рэжысёр Віктар Тураў нават не ўяўляў, які іспыт чакае яго ў часе працы з такім «нязручным» аўтарам. Адамовіч прыгадваў: «Садзіліся нейкія функцыянеры з ЦК... упісвалі... ледзь не эпізоды ў фільм, каб "пашырыць маштабы дзеяння". А гэта, згодна з іх разуменнем, значыла паказаць у фільме камандаванне, партыйнае кіраўніцтва... Адноўчы Тураў... у адчаі і злосці сказаў Станіславу Пілатовічу, які займаўся тады ў ЦК ідэалогіяй: "А чаму вы лічыце, што ваша меркаванне самае галоўнае?" Той грукнуў па сталу кулаком: "Таму што нас паставілі кіраваць!" Дык вось гэты Станіслаў глядзіць гатовы, ужо прыняты Дзяржкіно фільм, і раптам гаворыць: "Слухайце, там у вас у фільме камісар кепку носіць неяк па-анархісцку. Дык падраўняйце яму кепку..."»

У тыя, 1960-я, гады Адамовіч меркаваў, што глухую сцяну, якой яго атачылі, цэкоўская зграя склала з уласнай ініцыятывы. Аднак пазней зразумеў — за ўсім стаяў асабіста Машэраў. І тым не менш, менавіта першы сакратар ЦК КПБ падтрымаў ідэю фільма «Убейте Гитлера» (пазней пераназваны ў «Иди и смотри»), бо, сам былы партызан, Машэраў лічыў, што трэба нарэшце зрабіць добрае кіно пра партызанаў, а Элем Клімаў якраз у той час хацеў экранізаваць «Хатынскую повесть» Адамовіча. Гэта было своечасовае супадзенне. Машэраў нават аддаў распараджэнне прадставіць верталёт і выдаць 45 тысяч інвалютных рублёў на закупку кінаапаратуры.

Зрэшты, і першы сакратар не быў усёмагутны — Адамовіч прыгадваў: «Сцэнар, які быў ужо прыняты, перадалі на дадатковы водгук нейкім генералам, якія ніколі не маглі вымавіць слова "экзістэнцыялізм", аднак у іх водгуку гэтае слова паўтаралася не менш пяці разоў...» На адрас сцэнару было зроблена дванаццаць заўваг. Элем Клімаў пагадзіўся толькі з адной. Вынік — фільм здымацца не будзе...

Дазвол быў атрыманы праз шэсць гадоў, пасля гібелі Машэрава. Прычым праўкі ў сцэнары ўжо былі, як высветлілася, без патрэбы — трэба было толькі атрымаць «дабро» парткіраўніцтва. І ў гэтым палягала новая праблема, бо пасля трагічнай смерці Машэрава пазіцыі сакратара ЦК КПБ Кузьміна аслабелі, затое сілы набіраў Іван Антановіч: маючы падтрымку "ўверсе", ён пачаў барацьбу за месца галоўнага ідэолага. А паколькі Кузьмін фільм падтрымліваў, Антановіч, па словах Алеся Адамовіча, вырашыў яго загубіць. Так, ужо падчас прагляду гатовага фільма Антановіч шчыра прызнаўся Элему Клімаву: «Вы, магчыма, і геній... а я чалавек ардынарны, просты, і ў нас з вамі ніколі міра не будзе. Я ніколі побач з вамі не буду змагацца, дапамагаць вам». І яшчэ: «У вакууме мастак тварыць не можа... Яму павінен нехта стаяць і назіраць цераз плячо. Наша бяда ў тым, што мы наравілі апрануць кірзавыя боты перш, чым пагледзець цераз плячо. Гэта праблема Сістэмы. Мы былі яе ахвярамі».

***З нататнікаў А. Адамовіча:***

*«Маленькі чалавечак, які да адрыжкі абжэрся ўладай (і ў прамым сэнсе — маленькі, сыценькі):*

*— Фільм амаль геніяльны, але я супраць!*

# Запаведзь

*І не думае, нават не баіцца, што афарызмам можа прыпячатаць сябе, прышпіліць сябе, як казюльку, у літаратуры навекі, гэты чарговы Ів. Ів….»*

Фільм удалося абараніць толькі пасля таго, як на прагляд карціны былі запрошаны лепшыя тагачасныя рэжысёры. Зрэшты, яны таксама спачатку ледзь не пахавалі фільм, аднак становішча выратаваў Адамовіч, які на прамую звярнуўся да кіраўніка Саюза кінематаграфістаў Львa Куліджанава: «Мы, літаратары, — лайно, але такога дзярма, як вы, кіношнікі, я яшчэ не бачыў. Вы што, не разумееце, што загубілі свайго таварыша? Мы, пісьменнікі, таксама адзін аднаго не гладзім па поўсці, але калі пытанне стаіць пра жыццё і смерць таварыша па прафесіі, не дазволім сабе такога. Вы ж аддалі карціну і рэжысёра на расправу…»

Пасля такога жорсткага выступу фільм быў прыняты.

## На напаўсагнутых

Вернемся ў 1966 год. Менавіта тады ў газеце «Праўда» з'явілася імя ўраджэнца Беларусі Уладзіміра Сеўрука, які пасля шальмавання аповесці «Мёртвым не баліць» не толькі пачаў імкліва падымацца па партыйнай лесвіцы (выслужыўшыся да пасады загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС, ён, па сутнасці, куляраваў усю савецкую літаратуру) — з таго часу ён зрабіўся пажыццёвым ганіцелем Васіля Быкава. Адамовіч ведаў пра гэта і, аднойчы не ўтрымаўшыся, паўстаў на абарону сябра.

***З нататнікаў А. Адамовіча:***

*«Неяк па тэлефоне Быкаў паведаміў мне: ну ўсё, узяўся ён [Сяўрук] і за "Знак бяды"! Выклікаў рэдакцыю, "Др[ужбу] нар[одов]", "на ковёр" і ўжо даваў-даваў — за Быкава…*

*Пасля размовы з Бык[авым], усё яшчэ чуючы яго змрочны і стомлены голас, набраў Маскву. І — прама на Ул. М. [Сеўрука. — С. Ш.] Прадставіўся яму і:*

*— Ці вы пакінеце Б[ыкава] ў спакоі нарэшце, ці я пра ўсё, пра ўсе 25 гадоў траўлі, скажу публічна! Ну, зрабілі на ім кар'еру… Сказалі б дзякуй чалавеку і пакінулі яго ў спакоі…*

*Вядома, размова па такім тэлефоне з майго боку — нахабнейшая. Магчыма, гэта і збянтэжыла. О, яны чуюць, што нездарма. Раз загаварылі так — ці няма за гэтым некага? Таму мяне не абарвалі, не паслалі, не адчыталі, а сталі… скардзіцца. На тое, якія несправядлівыя беларусы да яго, земляка. Ён столькі зрабіў для Быкава (і для Ад[амовіча], між іншым, таксама), і замест падзякі што?..»*

Яшчэ праз нейкі час Адамовіч запіша: «Гад ён помслівы, не дарує гэтыя 20 хвіл. праўды ў лоб». І іншым разам: «Ведаеце, як бывае: на кагосьці накідваецца сабака, ты адганяць — таго пакінуў, увязаўся за табой і не адстае». Менавіта так і здарылася: у хуткім часе Адамовіча і яго сааўтара па «Блокадной книге» Данііла Граніна запрасілі ў Германію — з выпадку выхаду якраз «Блокадной книги», але Адамовіча з краіны… не выпусцілі. Адначасова сталі злятаць з газет — артыкулы, з плана выдавецтва «Советский писатель» — кніга…

Не стрымаўшыся, Адамовіч угаварыў Быкава напісаць першую ў жыцці скаргу, і ні больш, ні менш — на імя Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова. Яе сэнс: пакуль ідэалогіяй кіруюць сеўрукі — якая ўжо там перабудова!..

Два месяцы прайшлі ў чаканні адказу, як раптам абодвух выклікаюць у ЦК КПБ — пазнаёміцца з адказам, а там — пералік, колькі разоў іх выдавалі, колькі і куды яны ездзілі. Адамовіч прыгадваў у гэтай сувязі: «Васіль аж крэкнуў ад здзіўлення… Дый мы ж не пра гэта пісалі! Мы — пра тое, як 25 гадоў не злазілі з пісьменніка… а нас адлюстравалі гэткімі ненажэрнымі».

Апроч таго, сябрам паказалі «дадатак», у якім кіраўнікі з «Советского писателя», «Литературной газеты» і Саюза пісьменнікаў апавядалі пра… сеўрукоўскія вартасці і пра тое, як Быкаў і Адамовіч даўно пераследуюць добрага чалавека…

«Тая папка пра многае нам распавяла. Па-першае, што мы скардзіліся на тое, што нас мала выдаюць і мала ездзім па замежжах. (Прыкладаўся дакумент, што ўсё зусім наадварот.) Далей, што Сяўрук У. М. не толькі не надакучыў інтэлігенцыі за 25 гадоў сядзення "на друку", але, наадварот, працаваць з ім — асалода і задавальненне… — прыгадваў Адамовіч. — Васіль змрочна глядзеў на мяне: ну, што, казаў я табе? А я быў у захапленні: майстар ёсць майстар, нават калі ён на тваёй спіне выдае чачотку! А. Т. Кузьмін глядзеў на нас як дарослы на бязмозглых юнакоў, паабяцаў: у спакоі ён вас не пакіне, але будзе цяпер асцярожней».

***З нататнікаў А. Адамовіча:***

*«Пра Сеўрука і Сеўрукоў даводзіцца казаць бясконца. Так, ён з тых, хто вытурхоўвае з нашай культуры, літаратуры жыццё, жывое, на гэтым паразітуе, расце па чыноўніцкай лесвіцы. І помсціць, помсціць, гадзіць ва ўсім, ведаючы, якая ён гадзіна ў вачах усіх нас, гнойчык, вугор. Са мной яму нават нескладана пачынаць вайну: я паспеў настроіць супраць сябе ўсіх гэтых А. Савіцкіх ды С…, Паўлавых-Антановічаў — у нас, Бондаравых-Стаднюкоў — у Маскве. Ну, а для яго гэта вунь як зручна: за імі хавацца або іх рукамі дзейнічаць… Ды што ты можаш, чым напалохаць, калі я пра сябе даўно і думаць забыўся, пра сваю бяспеку і да т. п.»*

*«Не павінна быць гэтай улады ў апаратчыкаў. Улада іх падбірае, такіх. Яна іх нявечыць, вырадкаў, яшчэ мацней. І як яны скажона дзейнічаюць на ўсё грамадства. Генсекі высока і час ад часу дзейнічаюць. Гэтыя — увесь час, як толькі Сталін. Ён — асабіста, гэтыя — безаблічна, але з той жа сталасцю».*

У 1999 годзе Сяўрук выступіць на старонках газеты «Рэспубліка» з вялікім артыкулам, у якім назаве той даўні ліст супраць яго «даносам» і дадасць не без зларадпасці: «Апаратчыка майго рангу можна было звольніць толькі шляхам аднагалоснага пісьмовага галасавання членаў Сакратарыята ЦК КПСС. Гэта значыць, кожны павінен быў паставіць на бланку праекта пастановы ЦК КПСС "за" ці "супраць" і распісацца. Але нават пры адным голасе "супраць" пытанне з разгляду здымалася. Першы прагаласаваў "супраць" М. В. Зімянін, затым — Б. М. Панамароў (а ён ведаў мяне добра па Афганістане. Дарэчы, Адамовіч дапісаўся да таго, што я краў у Афганістане сала з салдацкіх пасылак. Інтэлігенцыя!).

Гарбачоў закруціўся. Даручыў Якаўлеву стварыць камісію, каб дабіць усё-ткі мяне. У камісію ўвайшлі вядомыя літаратары, выдаўцы, журналісты. Узначальваў яе першы намеснік старшыні Камітэта партыйнага кантролю пры ЦК КПСС Іван Сцяпанавіч Густаў. Прасвяцілі мяне, як гаворыцца, да апошняй костачкі. І аднагалосна прызналі: не, не вінаваты. НІВОДНЫ ФАКТ з даносаў НЕ ПАЦВЕРДЗІЎСЯ!..

Але тады даносчыкі асканадаліся. Як паведаміў у ЦК КПСС сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, "азнаёміўшыся з вынікамі праверкі іх ліста, тт. Быкаў і Адамовіч выказалі шкадаванне, што напісалі яго на аснове непраўдзівай інфармацыі" (Архіў ЦК КПСС да № 08603; 02 ад 16 красавіка 1986 г.). У той жа дзень А. Якаўлеў спісаў данос у архіў…»

Тут дарэчы будзе прыгадаць: калі літаратуразнаўца Валянцін Аскоцкі неяк кінуў папрок Аляксандру Якаўлеву (які ў той час быў сакратаром ЦК КПСС і правай рукой Гарбачова): «Вы ж самі прыгрэлі Сеўрука», Якаўлеў адказаў: «А вы ведаеце, як ён увахodзіў да мяне ў кабінет? На напаўсагнутых». І ўжо падчас нашай з ім размовы Аляксандр Мікалаевіч пацвердзіў: «Сяўрук сапраўды хадзіў на напаўсагнутых. Справа ў тым, што Сяўрук такі ўжо чалавек — як ледзь начальнік пабольш яго… Браў я яго па рэкамендацыі. І толькі потым прыйшло разуменне… Але ён жа добра маскіраваўся: Сяўрук пісаў артыкулы і тыя, і іншыя — якія скажаш, такія і напіша».

Хоць няправільна было б думаць, што толькі цэкоўцы — сяўрукі, антановічы, марцалевы, паўлавы, — свядома ці не кіруючыся гебельсаўскім прынцыпам: «Вылучайце аб'екты для нянавісці», шальмавалі Адамовіча. Яго білі з усіх бакоў. Так, да прыкладу, Рыгор Барадулін прыгадваў: «Самыя "магутныя" плёткі, якія ўпарта распаўсюджвалі ў нашым СП пра Адамовіча, — быццам бы ён жыд. А чаму, казалі, ды таму што яго маці ў аптэцы працавала. Ах, маці-аптэкарка?! І ўзнікалі асацыяцыі: Адамовіч-Хаймовіч… Калі ж і гэта не дзейнічала, тады пускалі чуткі, нібыта Адамовіч прадаўся Маскве і плюе на Беларусь, пакольki піша па-руску».

## «Шкодны пацыфіст»

У 1983 годзе пры ўдзеле Алеся Адамовіча была арганізавана канферэнцыя на тэму ядзернага апакаліпсісу. Менавіта тады ён, актыўна выступаючы з ідэяй ядзернага раззбраення, спрабаваў прабіцца да камандзіраў падводных лодак, здольных «пры неабходнасці» двума дзясяткамі ракет знесці Еўропу ці Амерыку. Адамовіч хацеў зразумець, «хто ж у кнопак і чаго можна чакаць ад іх». Пагаварыць атрымалася з трыма капітанамі — адным амерыканскім і двума савецкімі. Адну такую гутарку пісьменнік «рассакрэціў» — яна была надрукаваная ў «Московских новостях», пасля чаго яго абвінавацілі ў «кашчунстве», «здрадзе», «абстрактным гуманізме» і «шкодным пацыфізме».

Зрэшты, генералы не маглі дараваць яму не толькі заклік да раззбраення. Вось што некалі распавёў мне сакратар Саюза пісьменнікаў Масквы Валянцін Аскоцкі: «У вайскоўцаў з Адамовічам былі асаблівыя рахункі. Справа ў тым, што Васіль Быкаў, уведзены ў камітэт па абароне, аднойчы пачуў на сходзе камітэта такія размовы: Гарбачоў развальвае армію, Гарбачоў патурае пісьменнікам, якія прыдумалі "дзедаўшчыну". "Я нават не стаў далей слухаць, — распавядаў Быкаў, — і, сышоўшы ў знак пратэсту, адразу распавёў пра ўсё Адамовічу". А Адамовіч, выступаючы на з'ездзе народных дэпутатаў, звярнуўся прама да Гарбачова: "Міхаіл Сяргеевіч, асноўная небяспека для вас сыходзіць не ад Міжрэгіянальнай дэпутацкай групы, а ад генералаў, якія сядзяць ззаду вас і дыхаюць вам у патыліцу. Яны — вашы галоўныя праціўнікі"».

Сам Адамовіч прызнаваўся, што ўпершыню ў поўнай меры ўсвядоміў, з кім мае справу грамадства, і каму акадэмік Сахараў уручыў сваю бомбу, яшчэ ў 1984-м ці 1985 годзе — пасля размовы з незабыўным Антановічам. Адамовіч прыгадваў: «Выклікалі мяне ў ЦК, і я ад Івана Іванавіча пачуў, нарэшце, што такое сацыялістычны, не абстрактны гуманізм.

— Што вы ўсё палохаеце атамнай бомбай? Адкуль вы ўзялі, што загіне ўсё чалавецтва?

На мае аргументы… прагучаў адказ. Вось ён:

— Калі нават ад усяго нашага народа застанецца ў жывых 10 чалавек, задача ў тым, каб яны засталіся савецкімі людзьмі. У гэтым я бачу мэту сваёй працы, але і вашай, пісьменніцкай, таксама».

***З нататнікаў А. Адамовіча:***

*«У звароце ЦК КПСС, Прэзідыума Вярх[оўнага] Савета СССР і Савета мін[істраў] СССР… "Калі над планетай пранясецца ядзерны ўраган, ён не пакіне на ёй нават аазісаў жыцця…" "Не можа быць мэтаў, якія б апраўдвалі развязванне ядзернай вайны". Ну што, м[…]ла-Антановіч! Што цяпер скажаш, са сваёй упэўненасцю, што твая місія (Напалеончык с[…]ны!) выхоўваць далей у духу сваім "нават калі 10 чалавек застанецца на Зямлі". Маўляў, нешта ды застанецца. Ты, напрыклад, а раз ты, значыць, 5 млрд. можна і рызыкнуць…»*

**Працяг у наступным нумары**

**Фота з архіву сям'і Алеся Адамовіча**



**Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч**

# Толькі ў таго, хто памятае сваю гісторыю, ёсць будучыня

Святлана ЦІТОВА

**У кожнага чалавека свой шлях, і некаторыя асобы назаўсёды застаюцца ў нацыянальным пантэоне. Творчасць Эдуарда Рымаровіча — беларусацэнтрычная паводле адлюстраванага аўтарскага светапогляду. Мастак напісаў больш за дзве тысячы работ, і ў кожнай з іх — Беларусь.**

«Працаваў Эдуард неверагодна шмат. З раніцы да позняга вечара. Вельмі не любіў, калі яго адцягвалі бытавыя ці іншыя надзённыя праблемы. Час, не выдаткаваны на творчасць, лічыў згубленым, — дзеліцца ўспамінамі пра мастака яго ўдава, Галіна Уладзіміраўна Гайкова. — Ён не дазваляў сабе ніякай нават самай дробнай нядбайнасці або фанабэрыстасці ні ў працы, ні ў адносінах з людзьмі. Прыязнасць, прыроджанае пачуццё такту, прыстойнасць, чысціня намераў у грамадскай дзейнасці і ў жыцці былі адметнымі рысамі яго характару».

Эдуарда Рымаровіча не стала ў 2013 годзе. За апошнія пяць гадоў жыцця ён выстаўляў свае працы на шаснаццаці выставах рэспубліканскага значэння і трох міжнародных. У 2010 годзе па запрашэнні «Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў» у Манежы горада на Няве пад яго выставу была адведзена цэлая сцяна, што само па сабе, да радасці мастака, ужо было прыярытэтным.

Вітражы, роспісы, дыярамы, станковы жывапіс — усе яго працы прасякнутыя любоўю да Беларусі, і невыпадковы яго аўтарскі подпіс — «Рымар» — араты.

Беларуская мінуўшчына вабіла мастака. У яго гістарычных карцінах і партрэтах увасоблена цэлая галерэя нашых славутых продкаў: «Усяслаў Чарадзей», «Сапега», «Леў Сапега», «Андрэй Казімір Завіша», «Уладзіслаў IV», «Ян Сабескі», «Партрэт Дуніна-Марцінкевіча», «Сустрэча Ягайлы і Вітаўта ў Берасці». Да 600-годдзя перамогі ў бітве пад Грунвальдам паўстала палатно «Грунвальдскай бітве 1410 года прысвячаецца». Адметныя подпісы ўнізе на карціне найбольш яскрава характарызуюць асобу і светапогляд Эдуарда Рымаровіча: «Грунвальдская бітва — адна з найважнейшых бітваў сярэднявечча» і «Толькі ў таго, хто памятае сваю гісторыю, ёсць будучыня».


Грунвальдскай бітве 1410 года прысвячаецца, 2010


Каляды (фрагмент)

Эдуард Рымаровіч пакінуў шмат фундаментальных прац: яго роспісы ўпрыгожваюць бібліятэку Нацыянальнай акадэміі навук і бібліятэку імя Янкі Купалы, а вітражы — Дзіцячы цэнтр «Батлейка». У Мінскім абласным краязнаўчым музеі можна пабачыць яго сем вялікіх габеленаў, у тэхніцы ручнога ткацтва выкананы габелены і для Абласнога краязнаўчага музея Маладзечна «Старажытныя гарады Мінскай вобласці». Мастак стварыў жывапісны партрэты для архітэктурнага помніка «Калегіум езуітаў» у Воршы, зрабіў таленавіты роспіс на тэму палявання і дыярамы для музея Нацыянальнага парка «Белавежская пушча», дыярамы для Нацыянальнага парку «Прыпяцкі».

Не злічыць напісаных Эдуардам Рымаровічам пейзажаў. «Эдуард быў паляўнічым, і больш чым за 30 гадоў сваіх падарожжаў па паляўнічых угоддзях нанізваў на нітку памяці і ўбіраў у сябе дзівосную прыгажосць, каб потым узнаўляць яе ў карцінах, пісаць, не пакладаючы рук у любімай майстэрні», — расказвае ўдава.

Ад імя ўрада і беларускага народа карціны Рымаровіча былі паднесеныя ў дар Нью-Ёрку, прэзідэнтам Францыі, Украіны, Расіі, В'етнама, Кітая, а таксама мітрапаліту Тадэвушу Кандрусевічу.

16 лютага Эдуарду Георгіевічу Рымаровічу споўнілася б 59 гадоў. Яго жыццё абарвалася на ўзлёце вялікіх задум і вялікіх магчымасцяў. Светлая памяць.

**23 лютага (аўторак)**
на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) адбудуцца чарговыя заняткі ў гістарычнай школе
**«Гісторыя ў падзеях і малюнках» з Алегам Трусавым**
Новы гістарычны цыкл — Беларусь у XX ст.

Пачатак 18.00. Уваход вольны.


Ясны дзень, 2009


Лагойшчына, 2008



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 158

Падпісана да друку 19. 02.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.